

№ 29–30 (46–47)

Жнівень 2004 года



# Краязнаўчая газета

Выдаецца з красавіка 2003 года


## У нумары:


Спадчына: вяртанне каштоўнасцей Беларускай Дзяржавы – *стар. 1–3*

Новая рубрыка: наша гісторыя ў ідэях, падзеях, асобах – *стар. 4*

Свае назвы: не Чэрвень, а Ігумень! – *стар. 7*

Дата: 180 гадоў з часу выдання «Белорусского архива древних грамот» – *стар. 11*


### Адновім замак талакой

Больш за адзін мільён сто тысяч рублёў паступіла на спецыяльны рахунак, адкрыты Мазырскім гарвыканкамам для збору сродкаў на рэканструкцыю гістарычнага помніка драўлянага фартыфікацыйнага дойлідства XVI–XVII стагоддзяў – замка, размешчанага на гарадской гары Камунараў. Грамадскі рух па зборы ахвяраванняў ініцыіраваны паўтара месяца таму актывістамі Мазырскага краязнаўчага клуба. Як мне паведамілі ў гарадскім выканаўчым камітэце, аднаўленне помніка прымеркавана да адметнай даты ў жыцці горада над Прыпяццю – 850-годдзе яго заснавання гараджане адзначаць у наступным годзе. Агульны кошт будаўнічых і рэстаўрацыйных работ на аб'екце, па ацэнках спецыялістаў, складзе каля 90 мільёнаў рублёў.

***Мікола ЖДАНОВІЧ, «Рэспубліка»***

### Канферэнцыя ў Санкт-Пецярбургу

Адбылася дванаццатая штогадовая канферэнцыя «Санкт-Пецярбург: беларуская культура». Арганізатарамі яе выступілі наша рэгіянальная асацыяцыя беларусістаў і Расійская нацыянальная бібліятэка. У канферэнцыі прынялі ўдзел як вядомыя даследчыкі беларускай культуры, так і «новыя» беларусісты – супрацоўнікі Санкт-Пецярбургскага дзяржаўнага універсітэта, якія пачалі праект па вывучэнні культуры памежных беларуска-расійскіх тэрыторый (Смаленшчына, Браншчына).

Па матэрыялах чатырох папярэдніх канферэнцый падрыхтаваны трэці выпуск перыядычнага выдання «Белорусский сборник». Ён павінен выйсці да канца 2004 года.

***Мікалай НІКАЛАЕЎ,***
***старшыня Санкт-Пецярбургскай суполкі беларусістаў***

## Спадчына старога Мінска: захаваць і ўпарадкаваць

***Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А. Р. Лукашэнка падпісаў Указ № 330 «Аб развіцці гістарычнага цэнтра г. Мінска». Гэта адбылося 14 ліпеня 2004 г. Я асабіста хацеў бы верыць у тое, што вышэйназваны дакумент стане лёсавызначальным для нашай сталіцы. Бо за доўгі час працы ва ўстановах і органах культуры я не памятаю рашэння ўлад, якое б дазваляла хоць бы марыць аб тым, што на працягу нашага жыцця можна калі не аднавіць, то зрабіць першыя крокі да аднаўлення амаль страчанай гісторыка-культурнай спадчыны Мінска.***

Не, шаноўныя чытачы, безумоўна, былі і добрыя пастановы і справы па захаванні былі за мінулы час. Як прыклад таму – адноўленая частка Траецкага прадмесця, работы па рэстаўрацыі Верхняга горада. Але ўсё, што было зроблена – гэта вынік намаганняў гарадскіх улад. За што ім трэба сказаць «дзякуй». Але... ёсць і «але»... у гэтай няпростай справе. Горад Мінск практычна быў і заказчыкам, і выканаўцам, і... кантралёрам рэстаўрацыйных работ на гэтых гістарычных аб'ектах, што прыводзіла да супярэчнасцяў, а, бывала, і да канфліктаў з грамадскасцю. Можна ўспомніць «разбурэнне «Нямігі», неабгрунтаваны знос гістарычных і архітэктурных помнікаў у Верхнім горадзе, спробу (якая працягваецца) пабудовы на вуліцы Няміга аўтамабільнай стаянкі і іншае. Усё гэта нагадвала прынцып «сам будую – сам прымаю», якім, на жаль, да нядаўняга часу мы кіраваліся «па поўнай мерцы», не звяртаючы ўвагі на канфліктуючую гарамадскасць.

І вось, нарэшце, з'яўляецца Указ, які і вызначыў верхавенства той улады, якая прыняла на сябе абавязкі «кантралёра» за справу рэстаўрацыі старажытнага Мінска. Хачу толькі нагадаць уладзе, што ўвесь цывілізаваны свет даўно прызвычаіўся першасныя функцыі радцаў, экспертаў і кантралёраў ускладаць на сваіх самых кваліфікаваных спецыялістаў, якія ўваходзяць у склад грамадскіх арганізацый, якія займаюцца праблемай захавання спадчыны. У еўрапейскіх краінах іх шмат, у нас значна менш. Але яны ёсць у Беларусі, аднак часцей за ўсё, менавіта яны ў час узнікнення складаных горадабудаўнічых сітуацый, амаль незаўважныя для ўлад. Гэта грамадскія арганізацыі, якія аб'ядноўваюць творчую інтэлігенцыю: Добраахвотнае таварыства па ахове гісторыка-культурнай спадчыны, Беларускі фонд культуры, асацыяцыя «Канфедэрацыя творчых саюзаў» і іншыя. Да ліку незаўважаных адносіцца і Беларускі камітэт міжнароднай Рады па помніках і мясцінах – арганізацыя, якая на сусветным узроўні магла б выкарыстоўвацца больш эфектыўна дзеля ўзвышэння досведу аб помніках і гістарычных мясцінах нашай краіны, лабіраваць айчынную спадчыну ў турыстычным свеце, павялічваць яе вартасць да сусветнага значэння.

Баюся, ой як баюся, што выкананне першага найважнейшага Указа Прэзідэнта аб гэтай найважнейшай справе можа паўтарыць тыя ж памылкі, што рабіліся і раней. Не беспадстаўна баюся. Бо сярод тых, хто будзе займацца арганізацыяй яго выканання зноў не знайшла сабе месца і справы грамадскасць і яе думка. Кантролем будзе займацца вельмі паважаная арганізацыя – Камітэт дзяржкантролю, якая даўно прызвычаілася ў выкананні сваіх функцый абапірацца ў асноўным на чыноўнікаў дзяржаўных установ.

І яшчэ пра адно. Сама ідэя аднаўлення і развіцця гістарычнага цэнтра г. Мінска – даўняя мара грамадскасці. Складаннем многіх праектаў і ідэй шмат гадоў займаліся і Міністэрства культуры і праектныя інстытуты, асобныя мастакі і архітэктары. Нават я, хто здаўна быў захоплены гэтаю ідэяю, зараз не магу успомніць прозвішчы тых, хто свой талент паклаў на яе развіццё. Па памяці магу нагадаць распрацоўкі былога інстытута «Белспецпраектрэстаўрацыя», прапановы лаўрэата Ленінскай прэміі архітэктара Л.М. Левіна, археолага Г. В. Штыхава, вельмі слушныя падыходы-распрацоўкі па Мінскім замчышчы мастака Э.К. Агуновіча. Ды і мае сціплыя захады аднавіць у Траецкім прадмесці побач з музеем, помнікам і вуліцаю дом, дзе нарадзіўся наш слынны Максім Багдановіч (праектаванне дома выканана) – нешта дадаюць у агульную справу.

*(Заканчэнне на стар. 2)*

# У двор яблычны Спас, а мы яму «пас»

Калісьці ў нас было прынята да другога Спаса (яго яшчэ называюць яблычным) не есці з пладоў нічога, акрамя агуркоў. А яшчэ ў нас казалі, што на другі Спас і жабрак яблычак з'есць.

Але сёння мы пагаворым пра дбайных гаспадароў, да якіх з іх яблыневымі садамі ў нас на Беларусі такое абыякавае стаўленне, што яны зусім і не рады вялікаму святу, бо ад вялікага ўраджаю яблыкаў звычайна бывае і вялікі галаўны боль: іх дзяржава альбо прымае за бесцань, альбо іх наогул нельга здаць.

Вось што пра тое піша ветэран працы, мінчанка Нэлі Вакула.

«...Я займаюся садоўніцтвам і агародніцтвам. У мяне дачны ўчастак у Магілёўскім раёне, дзе растуць яблыні, грушы, іншыя фруктовыя дрэвы і кусты.

Але мы, з майго пункту гледжання, гаспадары нікуды не вартыя. Вось прыклад. Аднойчы ў Сенненскім раёне выспеў выдатны ўраджай яблыкаў. Але мы ім не пакарысталіся. Прадпрымальныя палякі самі сабралі плады з дрэў, уклалі ў тару, адвезлі ў Польшчу. Зусім верагодна, што нашы ж яблыкі прайшлі там «курс захоўвання», затым вярнуліся да нас са шматразовай накруткай.

У гэтым жа Сенненскім раёне ёсць спіртзавод у пасёлку Янава. Там таксама прымаюць яблыкі, наколькі мне вядома, удвая танней, чым у Мінску. А трэба было б зацікавіць насельніцтва, каб яму выгадна было рэалізоўваць ураджай на месцы.

Ды да гэтага нікому няма справы. У мясцовым калгасе скардзяцца, што няма чым плаціць зарплату. А чаму б у мясцовым дрэваапрацоўчым цэху не арганізаваць вытворчасць тары для захоўвання яблыкаў? У вёсцы шмат пенсіянераў. Яны змаглі б з тарнай дошчачкі збіваць скрыні. Да прыкладу, пяць скрынь для калгаса, пяць – для сябе. І вырашылі б праблему з закладкай спелых пладоў на захоўванне. Звычайныя сховішчы, без тэхнічных наваротаў таксама абсталяваць нескладана і нядорага.

А восенню і пад Новы год яблыкі ў скрынях можна вывезці на рынак. Але пры такіх нядбайных адносінах да праблемы, як у нас, мы ніколі не будзем багатымі. І будзем купляць прывазныя яблыкі з той жа Польшчы, Кітая, Іспаніі...».

Між тым даўно наспела неабходнасць ствараць у вёсцы на базе сельгаспрадпрыемстваў цэхі па перапрацоўцы вырашчанай мясцовай прадукцыі. Мы можам вырабляць уласныя сокі, кансерваваць яблыкі, іншую агародніну. Дарэчы, менавіта на гэта нацэльвае Урад нашых гаспадарнікаў.

## *Нашы віншаванні*

Шчыра, сардэчна віншуем тураўскі ансамбль танца «Прыпяць» з 40-годдзем!

«Прыпяць» працягвае традыцыі, што ідуць з глыбокай даўніны, калі продкі, у прыватнасці палешукі, умелі не толькі мужна выстойваць у розных цяжкіх сітуацыях, рупна працаваць, але і парадавацца жыццю. За чатыры дзесяцігоддзі склад ансамбля, зразумела, абнавіўся, але ў яго захаваліся фальклорны дух, глыбокае веданне розных народных абрадаў, харэаграфічнае майстэрства, чым захапляе не толькі сваіх землякоў, іншыя беларускія мясціны, але і замежжа. Ансамбль умеў і ўмее высока ўзняць значэнне і прыгажосць народнага танца, трымае цесную сувязь з многімі фальклорнымі, народнымі гуртамі Жыткавіччыны, што зберагаюць і развіваюць творчы дар сваіх прадзедаў.

Здароўя, творчага плёну ўсім, хто любіць працу, песню, танец, умее радавацца духоўнасці сам і шчодра нясе яе людзям!

***Беларускі фонд культуры, «Краязнаўчая газета»***



# Спадчына старога Мінска...

***(Заканчэнне. Пачатак на стар. 1)***

Мастак Э. Агуновіч невыпадкова сваю творчую працу прысвяціў канцэптуальным падыходам да стварэння гістарычнага цэнтра Мінска на яго старажытным замчышчы. Да таго часу ўжо былі праведзены археалагічныя раскопкі самога замка і яго пасада Г. В. Штыхавым каля дома фізкультуры – гэтага архітэктурнага «квазімоды» Мінска – былі адкрыты унікальныя гістарычныя і культурныя каштоўнасці XII–XVI стст., у тым ліку планіровачная структура старажытнага Мінска. Пры сучасных тэхналагічных наваўвядзеннях можна музеефіцыраваць і захаваць іх для нашчадкаў. Архітэктурнымі і мастацкімі формамі, нарэшце, можа быць услаўлена бітва на Нямізе і праз яе – першы ўспамін аб нашым слаўным горадзе.

Хачу таксама ўспомніць і пра сваю прапанову, якую я выказаў у лісце да мітрапаліта Мінскага і Слуцкага Філарэта аб аднаўленні да 2000-гадовага юбілею Хрысціянства першай царквы Мінска, якая будавалася на тэрыторыі Мінскага замка ў XII ст. і была адкрыта беларускімі археолагамі. На жаль, нават той знак аб гэтай царкве, што стаіць на беразе р. Свіслач, паказвае не на сапраўднае месца яе будаўніцтва, зводзіць у зман людзей, якія чытаюць надпіс на ім: «Тут была пабудавана...» Бо царква будавалася ў іншым месцы, аб чым сведчаць археалагічныя матэрыялы, якія павінны захоўвацца ў Нацыянальнай акадэміі навук.

Я не зусім упэўнены, што аб гэтым вядома ў Мінгарвыканкаме і непасрэдна ў яго Камітэце архітэктуры і горадабудаўніцтва, і што ўсе такія «дробязі» будуць улічаны пры падвядзенні вынікаў конкурсу на лепшы праект развіцця гістарычнага цэнтра, асабліва такая «дробязь», як музеефікацыя дома, дзе нарадзіўся М. Багдановіч.

Таму я, старшыня Беларускага камітэта міжнароднай Рады па помніках і мясцінах, ад імя сяброў камітэта (архітэктараў, археолагаў, архівістаў) хацеў бы параіць арганізатарам конкурсу далучыць да распрацоўкі і абмеркавання вынікаў яго ўсіх тых, хто ўжо шмат гадоў апякуецца тэмай аднаўлення страчанага Мінскам, хто б яны ні былі – сённяшнія ці ўчарашнія чыноўнікі, грамадскія дзеячы ці простыя мінчане.

***Уладзімір ГІЛЕП,***
***старшыня Беларускага камітэта міжнароднай Рады па помніках і мясцінах***

***Указ друкуецца паводле газеты «Беларусь сегодня» («Советская Белоруссия») ад 17.07.2004***

Указ Президента
Республики Беларусь № 330

## О развитии исторического центра г. Минска

В целях восстановления и обеспечения рационального использования объектов недвижимого имущества и территории исторического центра г. Минска **постановляю:**

1. Утвердить прилагаемые:

описание границ территории исторического центра г. Минска;

Концепцию реконструкции, развития и функционального использования объектов недвижимого имущества и территории исторического центра г. Минска.

2. Определить Минский горисполком единым заказчиком по реконструкции, развитию и воссозданию застройки, а также благоустройству исторического центра г. Минска с привлечением бюджетных средств и внебюджетных инвестиций на конкурсной основе.

3. Совету Министров Республики Беларусь совместно с Минским горисполкомом в трехмесячный срок разработать и в установленном порядке утвердить комплексную программу реконструкции, реставрации, восстановления и благоустройства исторического центра г. Минска на 2004–2010 годы.

4. Минскому горисполкому в месячный срок объявить и в 2004 году провести конкурс на лучший проект развития исторического центра г. Минска. Итоги конкурса представить на согласование Президенту Республики Беларусь.

5. Контроль за реализацией настоящего Указа возложить на Комитет государственного контроля.

6. Настоящий Указ вступает в силу со дня его подписания.

Президент Республики Беларусь
А. ЛУКАШЕНКО.
14 июля 2004 г. г Минск.

Утверждено Указом Президента
Республики Беларусь
от 14.07.2004 г. № 330

## Концепция реконструкции, развития и функционального использования объектов недвижимого имущества и территории исторического центра г. Минска*

**Общие положения**

Настоящей Концепцией определяются основные направления реконструкции, реставрации, воссоздания и перспективного использования объектов исторического центра г. Минска в соответствии с генеральным планом, утвержденным Указом Президента Республики Беларусь от 23 апреля 2003 г. № 165 «Об утверждении генерального плана г. Минска с прилегающими территориями и некоторых вопросах его реализации» (Национальный реестр правовых актов Республики Беларусь, 2003 г., № 49, 1/4555).

В состав исторического центра г. Минска входят: Верхний город с примыкающим к нему кварталом в границах улиц Комсомольской, Интернациональной, Городской Вал и Революционной, Троицкое и Раковское предместья, Минское замчище.

На этой территории расположены архитектурные памятники XII–XX веков, объекты восполняемой застройки и нового строительства, а также культурный слой, представляющий археологическую ценность. Данная территория с объектами недвижимого имущества формирует уникальный архитектурно-исторический ансамбль столицы.

Особенностью использования объектов, находящихся в указанных кварталах, является разрозненность функций по характеру их административного, социального, культового и другого назначения.

Основная цель настоящей Концепции – проведение государственной политики по научно обоснованному и рациональному использованию потенциала исторического центра г. Минска и эффективному управлению недвижимым имуществом, расположенным на его территории.

**Основные направления**

1. Функциональное зонирование территории:

1.1. формирование зоны культурного досуга с экскурсионными маршрутами, зрелищными, музейными и культовыми сооружениями;

1.2. создание торговой зоны по ул. Торговой (с восстановлением застройки по обеим сторонам улицы и вдоль бывшей Лавской набережной) и далее к торговому центру на ул. Немиге;

1.3. выделение зоны деловых контактов на периферийных участках территории исторического центра. Для обеспечения жизнедеятельности зоны деловых контактов формируется сопутствующая инфраструктура (гостиничное хозяйство, пункты питания, торговли и другие);

1.4. образование на территории Троицкого предместья национального центра народных ремесел и торговли;

1.5. использование части территории Верхнего города (в районе пл. Свободы) для создания и развития объектов духовно-культурного назначения;

1.6. формирование общественно-торговой и деловой зоны в кварталах улиц Комсомольской, Интернациональной, Городской Вал, Революционной;

1.7. осуществление музеефикации территории Минского замчища как исторического начала города для сохранения национальных традиций.

2. Транспортная инфраструктура:

2.1. организация удобных и безопасных пешеходных связей между разделенными частями единого городского образования, а также размещение и обустройство гостевых парковок автотранспорта;

2.2. перспективная реконструкция транспортной развязки на пересечении пр. Машерова и ул. М. Богдановича – ул. Немиги в целях возможного пропуска транзитного транспорта в тоннеле под пл. Свободы и ул. Ленина;

2.3. реконструкция транспортной развязки на перекрестке ул. М. Богдановича и ул. Янки Купалы;

2.4. строительство подземных и наземных пешеходных переходов через улицы М. Богдановича, Немигу, Интернациональную, пр. Машерова и другие;

2.5. разработка технико-экономического обоснования организации движения общественного транспорта в пределах исторического центра г. Минска.

**Организационные аспекты**

3. Реконструкция существующих зданий и сооружений, а также размещение объектов восполняемой застройки направлены на расширение функций туризма, гостиничного обслуживания и торговли, развитие народных ремесел и промыслов.

4. В ходе строительства и воссоздания объектов социально-культурной сферы предусматривается организация дополнительных рабочих мест.

5. Создание единого архитектурного комплекса исторического центра г. Минска осуществляется в целях духовного возрождения, патриотического и нравственного воспитания на основе культурно-исторических ценностей народа Беларуси.

Утверждено Указом Президента
Республики Беларусь
от 14.07.2004 г. № 330

## Описание границ территории исторического центра г. Минска*

Граница территории исторического центра г. Минска проходит от набережной р. Свислочь в районе пешеходного моста, включая территорию памятника воинам-интернационалистам, затем по оси ул. Янки Купалы до пересечения с осью ул. Интернациональной, далее по оси ул. Интернациональной до пересечения с осью ул. Комсомольской, затем по оси ул. Комсомольской в юго-восточном направлении до пересечения с условной линией, проходящей параллельно ул. Интернациональной и удаленной от ее оси в глубь квартала на расстояние 50 м до оси ул. Городской Вал, далее по оси ул. Городской Вал до пересечения с осью ул. Немиги, затем в северном направлении по оси ул. Немиги на участке 90 м (до дома № 12), далее по внутриквартальной территории в северо-западном направлении параллельно ул. Романовская Слобода на участке протяженностью 280 м и удаленном от оси ул. Романовская Слобода на 100 м, далее по условной линии, параллельной внутриквартальному проезду, на удалении 10 м на запад от западной границы указанного проезда в сторону ул. Раковской к дому № 27, затем по оси ул. Раковской до пересечения с осью ул. Обойной, далее по оси ул. Обойной в северо-восточном направлении до пересечения с Обойным переулком, далее в северо-западном направлении на участке 40 м по оси Обойного переулка, затем параллельно оси ул. Обойной в северном и северо-восточном направлении по внутриквартальной территории, далее в створе северо-западной грани дома № 7 по пр. Машерова до набережной р. Свислочь.

* Краткое содержание.





# Так ратаваліся каштоўнасці

***Мікалай Нікандраў, супрацоўнік аддзела рэстытуцыі і культурных каштоўнасцей Міністэрства культуры Расійскай Федэрацыі, наш суайчыннік (па маці), у 1997 годзе ці не ўпершыню агучыў звесткі пра абставіны вяртання беларускіх музейных экспанатаў з Германіі. Яго даклад аб праблемах выяўлення вывезеных у час Другой сусветнай вайны скарбаў на Міжнароднай канферэнцыі ў Мінску, што ладзілася пад эгідай ЮНЕСКА, быў сенсацыйным. Тыя, хто жадае пераканацца ў гэтым, могуць прачытаць даклад у вядомым зборніку «Вяртанне-4» (Мінск, 1997), які выйшаў пад эгідай ЮНЕСКА. Паводле сцвярджэнняў маскоўскага калегі (праўда, без спасылак на крыніцы), амерыканскія акупацыйныя ўлады ў Германіі атрымалі ў свае рукі больш за 1500 месцаў захоўвання музейных экспанатаў з Германіі і іншых краін.***

Амерыканцы знаходзілі каштоўнасці ў тайніках, замках, шахтах Баварыі і звозілі іх у зборныя пункты ў Мюнхене, Афенбаху, Вісбадэне. Адтуль каштоўнасці СССР на падставе спецыяльных картак-патрабаванняў («дэкларацый»), якія запаўняліся супрацоўнікамі Упраўлення рэпарацый і паставак Савецкай ваеннай адміністрацыі ў Германіі (СВАГ), перадаваліся на склад «Дэрутра» ў Берліне. Да 24 кастрычніка 1947 года на склад перадалі 2 391 скрыню з каштоўнасцямі, якія затым пагрузілі ў 18 закрытых вагонаў і адзін адкрыты (у ім павезлі дзве бронзавыя статуі і ствол гарматы). Вагоны накіроўваліся ў Пушкін, Ноўгарад, Кіеў, а два вагоны з 182 скрынямі – у Мінск.

Вывучэнне далейшага лёсу вернутых у СССР культурных каштоўнасцей М. Нікандраў назваў «асобнай праблемай» і адзначыў, што падрабязны інвентарызацыйны вопіс з вызначэннем кошту кожнага экспаната праводзіўся «на базах сістэмы культасветустаноў», у тым ліку ў Мінску.

Дакументы, што зберагаюцца ў Нацыянальным архіве Рэспублікі Беларусь у фондзе № 790 «Камітэт па справах культурна-асветных устаноў пры Савеце Міністраў БССР», дазваляюць нарэшце зняць заслону з гэтай важнай старонкі ў гісторыі музейнай справы і шырэй – культуры, удакладніць шляхі вельмі неабходных пошукаў расцярушанай ці прыхаванай па розных прычынах спадчыны, прапанаваць рэальныя захады па яе выяўленні і выкарыстанні.

Адкрыем справу № 68, аркушаў у ёй няшмат, усяго 30, але ўсе яны надзвычай каштоўныя для нашай гаворкі. Першы ўжо дакумент, датаваны 6 лістапада 1947 года, пераносіць нас у тагачасны Берлін, дзе быў складзены «Акт прыёму-здачы музейнай маёмасці, што вяртаецца ў парадку рэстытуцыі ў Савецкі Саюз».

Прывядзём пачатак дакумента ў перакладзе з рускай мовы:

*«На падставе распараджэння Савета Міністраў Саюза ССР № 15792-РС ад 26 кастрычніка 1947 года Савецкая ваенная адміністрацыя ў Германіі ў асобе начальніка аддзела рэстытуцый упраўлення рэпарацый і паставак СВА ў Германіі тав. Гуляева Г. Н. і начальніка аддзялення культурна-мастацкіх каштоўнасцей тав. Галузіна В. Л. здала, а Камітэт па справах культурна-асветных устаноў пры Савеце Міністраў РСФСР у асобе свайго ўпаўнаважанага тав. Марчукова Д. Б. прыняў у гор. Берліне са склада «Дэрутра», што знаходзіцца ва «Усходнім порце», у адпаведнасці з паскрыневым вопісам, прадстаўленым аддзелам рэстытуцый упраўлення рэпарацый і паставак (гл. дадатак да акта) – дзве тысячы трыста дзевяноста адно месца (2 391) розных памераў з культурна-мастацкімі каштоўнасцямі, што паступілі ў парадку рэстытуцыі з амерыканскай зоны акупацыі Германіі як уласнасць Савецкага Саюза».*

Далей у акце адзначалася, што паводле заключэння ўпаўнаважанага камітэта Д. Б. Марчукова і групы спецыялістаў А. М. Кучумава, Г. Г. Анцішына, Н. Г. Галембіеўскага, В. В. Хатышава было прызнана немагчымым праводзіць у Берліне інвентарызацыйны вопіс соцень тысяч каштоўнасцей. Таму прынялі наступнае рашэнне. Пры здачы музейнай маёмасці пламбіраваць кожную скрыню асобна. Вагоны з нагружанымі скрынямі таксама запламбіраваць. Вагоны з Берліна да месца прызначэння павінны суправаджацца прадстаўнікамі Камітэта па справах культурна-асветных устаноў пры Савеце Міністраў РСФСР, упаўнаважанага Савета Міністраў Украінскай ССР у Германіі В. С. Астравецкага і ўпаўнаважанага Савета Міністраў Беларускай ССР у Германіі М. Кальніцкага. У акце падаюцца звесткі, што ўдакладняюць інфармацыю М. Нікандрава, прынамсі пра лёс 2 391 скрыні са склада «Дэрутра». Было распакавана больш за тысячу скрынь «з мэтай праверкі характару музейнай маёмасці, яе тэхнічнага стану і якасці ўпакоўкі», а таксама прагледжаны знешні выгляд упакоўкі ўсіх астатніх скрынь і «асобных месцаў» (мабыць, рэчаў у своеасаблівай упакоўцы). Усе скрыні з прадметамі, што б'юцца (фарфор, шкло, кераміка), а таксама скрыні з кнігамі, карцінамі, начыннем і мэбляю былі перапакаваны, акрамя таго, было выраблена 350 новых скрынь розных памераў і 650 скрынь адрамантавана. Калі распакавалі скрыню № К-153, то ўбачылі сярэбраную шкатулку за № 41120, у якой знайшлі розныя каштоўнасці. Гэта было перададзена ў першае аддзяленне ўпраўлення рэпарацый і паставак на асобае захоўванне, каб затым адправіць у Савецкі Саюз спецыяльнай поштай. Пасля сартавання і пераўпакоўкі ўся прынятая са склада «Дэрутры» музейная маёмасць знаходзілася ўжо ў 2 021 месцы, прыдатным для адпраўкі ў СССР. Прычым у акце адзначалася, што грабежніцкая практыка вывазу мастацкіх каштоўнасцей з СССР і наступныя іх перакідкі па Германіі прывялі да таго, што шэраг музейных экспанатаў, асабліва з тых, што лёгка б'юцца, сталі поўнасцю ці часткова непрыдатнымі. Атрыманую ў такім стане ад амерыканскіх улад маёмасць пакінулі сярод іншых рэчаў для магчымай рэстаўрацыі ў будучыні.

Другі дакумент тычыцца ўжо непасрэдна 182 скрынь у двух вагонах, што вярталіся ў Беларусь:

*«Акт прыёму-здачы музейнай маёмасці, што вяртаецца ў парадку рэстытуцыі ў Савецкі Саюз.*

*28 кастрычніка 1947 года, гор. Берлін.*

*На падставе распараджэння Савета Міністраў Саюза ССР ад 26 кастрычніка 1947 года, № 15732-РС упаўнаважаны Камітэта па справах культурна-асветных устаноў пры Савеце Міністраў РСФСР у асобе Д. Б. Марчукова здаў, а ўпаўнаважаны Савета Міністраў БССР у асобе М. Кальніцкага прыняў культурна-мастацкія каштоўнасці са склада «Дэрутра» ў гор. Берліне ў колькасці 182 (сто восемдзесят дзве) скрыні і месцы, што паступілі ва ўпраўленне рэпарацыі і паставак СВА ў Германіі з амерыканскай зоны акупацыі Германіі як уласнасць Савецкага Саюза, у адпаведнасці з надрукаваным на 2 аркушах вопісам, што дадаецца».*



*Войшунд, міфічны продак Радзівілаў*
*Партрэт з нясвіжскіх збораў*

У акце спецыяльна адзначалася, што пасля прыбыцця на месца прызначэння Камітэт па справах культурна-асветных устаноў пры Савеце Міністраў БССР выдае загад аб прызначэнні спецыяльнай камісіі для распакавання грузу, складання папрадметнага вопісу рэчаў і вызначэння кошту кожнага экспаната. Копіі загада і вопісаў камітэт павінен быў накіраваць у Берлін, у аддзел рэстытуцыі ўпраўлення рэпарацыі і паставак СВА ў Германіі.

Да акта, складзенага 28 кастрычніка 1947 года ў Берліне, дадаецца вопіс скрынь і месцаў, атрыманых на складзе «Дэрутра» Камітэтам па справах культурна-асветных устаноў пры Савеце Міністраў РСФСР і перададзеных «упаўнаважанаму Савета Міністраў БССР тав. Кальніцкаму як уласнасць Беларускай ССР для адпраўкі ў гор. Мінск». Вопіс цікавы тым, што ў ім зафіксаваны нумары скрынь паводле амерыканскага ўліку і новыя нумары, ад В-1 да В-182, адпаведна колькасці скрынь.

Што ж вярнулася ў Беларусь? Што было ў скрынях? Адказ на пытанне дае перш за ўсё даведка «Асноўныя музейныя калекцыі і зборы, вернутыя з Германіі Савецкай ваеннай адміністрацыяй у лістападзе 1947 года» за подпісам начальніка аддзела музеяў Камітэта па справах культасветустаноў пры Савеце Міністраў БССР У. Венюкова:

*«1. Калекцыі (да 100) старадрукаваных кніг пераважна беларускіх, старамаскоўскіх, стараўкраінскіх выданняў XVII–XVIII стагоддзяў. У ліку іх знаходзіцца такое рэдкае выданне, як першы беларускі лексікон, выдадзены ў Куцеінскім манастыры пад Оршай Памвам Бярындам. Шэраг магілёўскіх выданняў і кніг. Кнігі, надрукаваныя ў Супрасльскім манастыры (былая Гродзенская губерня).*

*2. Да 30 рукапісных кніг, пераважна XVI–XVIII стагоддзяў, у асноўным пісаныя ў Беларусі.*

*3. Каштоўная і шматлікая калекцыя фотаздымкаў па этнаграфіі Беларусі.*

*4. Вялікая калекцыя беларускага этнаграфічнага матэрыялу, сярод якога асабліва каштоўны збор даўніх беларускіх драўляных коўшыкаў, шэраг прылад працы беларусаў, народныя музычныя інструменты і розныя побытавыя прадметы.*

*5. Значны збор абразоў, сярод якіх трапляюцца надзвычай каштоўныя творы даўняга беларускага мастацтва (абразы магілёўскай школы і інш.).*

*6. Збор старабеларускай драўлянай культавай разьбы XVII–XVIII стагоддзяў.*

*7. З гістарычнага матэрыялу ўяўляюць каштоўнасць цэхавыя сцягі, розныя цэхавыя вырабы (хатняе начынне).*

*8. Прыкладное мастацтва прадстаўлена мэбляй, фарфорам і бронзай, аднак як мэбля, так і фарфор атрыманы ў моцна пашкоджаным стане, большасць пераламана, каштоўныя часткі адсутнічаюць (патрабуецца рэстаўрацыя).*

*9. Са свецкага жывапісу значная калекцыя сям'і Радзівілаў (больш за 50 партрэтаў).*

*10. Атрымана таксама значная колькасць твораў беларускіх мастакоў пераважна 20–30-х гадоў: Філіповіча, Сухаверхава, Манасзона, Беляніцкага, Лейтмана і работы старэйшых мастакоў: Пэна, Альпяровіча, Бразера, Кругера.*

*11. Царкоўны посуд, пераважна XVII–XVIII стагоддзяў у моцна пашкоджаным стане.*

*12. Археалагічныя калекцыі з раскопак на тэрыторыі Беларусі (матэрыялы Акадэміі навук БССР і мінскага Дзяржаўнага гістарычнага музея).*

*13. Некаторая колькасць этнаграфічнага матэрыялу (кераміка, тканіны і інш.), а таксама архіўнага матэрыялу і друкаваных выданняў Украінскай ССР.*

*14. Калекцыя старажытнай зброі.*

*15. Частка мастацкіх твораў належыць Дзяржаўнай карціннай галерэі (Левітан, Башылаў і інш.)».*

Пра лёс вернутых з Германіі каштоўнасцей сведчаць яшчэ два дакументы са справы № 68. Першы з іх – гэта ліст ад 10 лютага 1948 года, падпісаны А. М. Кучумавым, дырэктарам Цэнтральнага сховішча музейных фондаў у Пушкіне пад Ленінградам, куды траплялі вернутыя з Германіі каштоўнасці. Славуты музейшчык паведамляў беларускім калегам, што сярод вернутай з Берліна музейнай маёмасці выяўлены «карціны ў колькасці 30 шт., выкрадзеныя немцамі з Беларускага дзяржаўнага музея». Таму А. Кучумаў прасіў тэрмінова выслаць прадстаўніка для прыёмкі карцін. Гісторыкам мастацтва і музейнай справы ўжо добра вядомая перадача музейных каштоўнасцей з Пушкіна ў Беларусь, што адбылася 2 красавіка 1948 года, прафесар Надзея Высоцкая надрукавала акт аб іх перадачы ў зборніку «Вяртанне-4». Але ўжо ў жніўні 1950 года 89 твораў з паступлення 1948 года былі перададзены з Мінска ў Польшчу.

Другі дакумент датаваны 28 лютага 1948 года і напісаны намеснікам старшыні Савета Міністраў БССР А. Эльманам на гербавым бланку са службовага блакнота. Дакумент адрасаваны ўжо знаёмаму нам У. Л. Венюкову, якога ў перапісцы часам называлі Вінюковым:

«Тав. Вінюкоў!

Прашу перадаць карціннай галерэі ўсе экспанаты, атрыманыя з Германіі ў парадку вяртання каштоўнасцей і маючых адносіны да мастацтва (падкрэслена А. Эльманам. – **В.С.**)».

Рэшта дакументаў сведчыць пра падрыхтоўчую работу, што праводзіў Камітэт па справах культасветустаноў да вяртання вывезеных у Германію каштоўнасцей. 8 верасня 1947 года ў музеі Беларусі быў накіраваны ліст за № 1726 з прапановай паведаміць звесткі пра лёс вывезеных фашысцкімі захопнікамі экспанатаў. У справе захоўваюцца наступныя дакументы, атрыманыя камітэтам з музеяў:

– Спіс музейных каштоўнасцей Гродзенскага дзяржаўнага гісторыка-археалагічнага музея, украдзеных немцамі і вывезеных у Германію. 14.09.1947. Арк. 13–15. Суправаджальны ліст – арк. 12.

– Вынікі вопісу экспанатаў Віцебскага абласнога гістарычнага музея, што прапалі за час вайны. 17.10.1947. Арк. 16–17 адв.

– Пералік найгалоўнейшых каштоўнасцей, што меліся ў даваенным Полацкім краязнаўчым музеі і былі разрабаваны захопнікамі ў час акупацыі Полацка. Арк. 21–21 адв.

– Вопіс экспанатаў Віцебскага гістарычнага музея, вернутых з Рыгі. Арк. 24–25.

– Інфармацыя Пінскага абласнога гістарычнага музея пра вывезеныя ў Германію ў 1942–1943 гадах экспанаты, датаваная 20.09.1947 года. Арк. 18–20. Апошні дакумент важны тым, што ў копіі ён быў накіраваны аддзелу рэстытуцыі ўпраўлення рэпарацый і паставак СВА ў Германіі. Хутчэй за ўсё, разгортванне гэтай работы было ініцыіравана з Берліна.

У будучым магчыма публікацыя артыкула пра дасланыя спісы.

Звернем увагу і на такі, быццам бы дробязны, факт. Аналагічная інфармацыя дырэктара Магілёўскага музея І. Мігуліна ад 17 верасня 1947 года на трох аркушах захоўвалася ў асобнай папцы (справа № 79, дакумент друкаваўся ў «Голасе Радзімы» № 10–11 за 2004 год, прыведзены даныя пра Крыж Ефрасінні Полацкай і Слуцкае Евангелле).

Завяршаюць справу пераклады дакументаў з нямецкай мовы, якія выканаў старшы навуковы супрацоўнік Мінскага музея Вялікай Айчыннай вайны (так у тэксце) Пётр Захаравіч Савачкін, будучы шматгадовы дэкан гістарычнага факультэта БДУ. Дакументы зберагаліся ў тагачасным Цэнтральным дзяржаўным архіве Кастрычніцкай рэвалюцыі (цяпер Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь) у фондзе Генеральнага камісарыята Беларусі. Гэта датаваны 11 лістапада 1942 года акт аб перадачы Мінскім гістарычным музеем Праваслаўнай беларускай мітраполіі царкоўнай маёмасці, сярод якой кнігі XVII–XVIII стагоддзяў, царкоўны посуд, усяго 33 пазіцыі. Акт ад 9 лістапада 1943 года сведчыць, што музей перадаў Чыгуначнай царкве 9 кніг, у тым ліку 8 назваў XVIII стагоддзя. Перакладзены таксама 5 тэлеграм за красавік 1944 года пра мяркуемую эвакуацыю мінскага музея ў Інстэрбург (Усходняя Прусія) і Гохштат (Баварыя). Сёння ўжо добра вядома, што з Гохштата музейныя скарбы праз амерыканскі зборны пункт трапілі ў Берлін на склад «Дарутра», а адтуль у лістападзе 1947 года вярнуліся ў Мінск. Што чакала іх у родным горадзе?

***Віталь СКАЛАБАН,***
***кандыдат гістарычных навук,***
***«Голас Радзімы»***




# Наша гісторыя: ідэі, падзеі, асобы

## З 862 года...

Калі акінуць думкамі пісьмова вядомую нашу гісторыю, то з гонарам адчуваеш: і сёлета з часу пачатку шматлікіх падзей, народзін многіх асоб зямлі нашай ёсць, будуць даты, якія заканчваюцца на «0» і «5» – гэта значыць, яны юбілейныя.

Ды якія гадавіны падзей, асоб і якое яны мелі для нашага народа лёсавызначальнае значэнне!

Многія юбілеі ўжо адлюстраваны ў нашых энцыклапедыях, шматлікіх іншых выданнях (да слова, толькі пры Беларускім фондзе культуры ў 2000 і 2003 гадах выйшлі два тамы «Славутыя імёны Бацькаўшчыны», дзе больш за 50 даследаванняў жыцця, дзейнасці славутых і малавядомых нашых дзяржаўных і грамадскіх дзеячаў, навукоўцаў, пісьменнікаў, мастакоў розных эпох). Але калі яшчэ раз успомніць значнае, то яно зноў робіць глыбокае ўражанне на дасведчаных, а тым, хто не працуе з навуковай літаратурай па гісторыі і культуры, упершыню на многае адкрывае вочы, дапамагае спазнаць шмат як слаўных, так і нялёгкіх рэчаў з лёсу нашай Радзімы. З далёкага 862 года, калі запісалі ў летапісе, што ёсць яны, нашыя ўжо слаўныя Полацк і Полацкае княства са сваімі пэўнымі дзяржаўнымі атрыбутамі.

Уласна, рубрыка «Наша гісторыя: ідэі, падзеі, асобы» ў газеце пачалася ўжо летась, калі мы досыць шырока адзначалі многія, паўторым, юбілеі знакамітых падзей і асоб – у прыватнасці, з'яву і значэнне каранацыі 750 гадоў таму (1253) Міндоўга, калі нашы продкі ў выніку гэтага займелі на нашых землях сваіх караля і каралеўства (на кароткі час). Сёлета ў № 21 газеты мы прысвяцілі публікацыю Войшалку – Міндоўгаваму сыну, які 740 гадоў таму па-новаму і больш плённа прадоўжыў справу ўтварэння і ўмацавання Вялікага княства Літоўскага. У № 25 быў матэрыял да 375-годдзя С. Полацкага, адзначылі паўтысячагоддзе Будслава, 190-годдзе Яўстафія Тышкевіча і г.д.

Пісьменнік Ул. Арлоў і гісторык Г. Сагановіч ласкава дазволілі выкарыстаць асобныя раздзелы з іхняй кнігі «Дзесяць вякоў беларускай гісторыі (862–1918)», сабралася нямала іншых, у тым ліку зусім новых матэрыялаў, дык маем намер далей зрабіць публікацыі вышэйзгаданай рубрыкі пастаяннымі. Чакаем парад, матэрыялаў і ад нашых чытачоў.

Вось – сёлетняе 975-годдзе такой буйной нашай асобы, як Усяслаў Чарадзей. Як падлічылі Ул. Арлоў і Г. Сагановіч, той мог нарадзіцца ў 1029 годзе. Матэрыялы з кнігі гэтых аўтараў будуць друкавацца ў адаптаваным выглядзе (правапіс).

***Генрых ДАЛІДОВІЧ***

### Старажытныя беларускія княствы

**862** – Першыя летапісныя звесткі пра Полацак.

**980 (?)** – «Крывавае вяселле» Уладзіміра з Рагнедай.

**992** – Утварэнне Полацкай епархіі.

**1021** – Бітва полацкага князя Брачыслава з Яраславам Мудрым на Судоме.

**1029** – Нарадзіўся князь Усяслаў Чарадзей.

**3 сакавіка 1067** – Бітва на Нямізе. Першая згадка пра Менск.

**каля 1104** – Нарадзілася Ефрасіння Полацкая, асветніца і нябесная заступніца Беларусі.

**1129** – Выгнанне полацкіх князёў у Візантыю.

**каля 1130** – Нарадзіўся славуты пісьменнік і прапаведнік Кірыла Тураўскі.

**1158** – Заваёва незалежнасці Тураўскім княствам.

**1161** – Ювелір Лазар Богша стварыў крыж Ефрасінні Полацкай.

**каля 1186** – «Слова пра паход Ігаравы».

**1216** – Смерць полацкага князя Валодшы.

### Сусветная гісторыя

**863** – З'яўленне Кірылы і Мяфодзія ў Маравіі.

**983** – Паўстанне палабскіх славянаў супраць немцаў.

**1048** – Нарадзіўся выбітны персідскі паэт і філосаф Амар Хаям.

**1066** – Заваёва Англіі нарманамі.

**1095** – Рымскі папа Урбан II абвясціў крыжовы паход на Іерусалім.

**1113** – Створана «Хроніка палякаў», вядомая як «Хроніка Ананіма Гала».

**1122** – Вормскае пагадненне паміж імператарам Генрыхам IV і рымскім папам.

**1146** – Палітычнае раздробленне Польшчы.

**1171** – Ваеннае ўварванне ў Ірландыю і ўсталяванне там англійскага панавання.

**1174** – Забойства ўладзіміра-суздальскага князя Андрэя Багалюбскага.

**1204** – Захоп і спусташэнне Канстанцінопаля крыжакамі.

**1217** – Сербія стала каралеўствам.

**1222–1230** – Стварэнне «Люстра Саксаў» – зводу феадальных законаў Нямеччыны.

**1225** – Нарадзіўся знакаміты філосаф і багаслоў Тамаш Аквінскі.

## 1029

# Нарадзіўся князь Усяслаў Чарадзей

***Беларусь дала унікальны для сярэднявечнай гісторыі славянаў прыклад, калі два князі – бацька і сын – кіравалі дзяржаваю цэлае стагоддзе. Ад 1001 да 1044 года ў Полацку валадарыў Брачыслаў, а пасля ягонай смерці, да 1101 года, – Усяслаў Брачыслававіч, празваны Чарадзеем.***

Таямніца ахутвае ўжо ягоны прыход на свет. Як занатавана ў летапісе, маці нарадзіла Усяслава «от волхвования», гэта значыць пры ўдзеле паганскіх чарадзеяў. На галаве немаўля мела загадкавае «язвено», што вешчуны наказалі маці завязаць, каб сын насіў яго да смерці. Можа, гэта была нейкая язва, а мо вялікі радзімы знак, якім пазначае сваіх абраннікаў неба?

Сучаснікі і нашчадкі верылі, што гэтага князя нябесныя сілы надзялілі вешчай душою, што ён умеў перакінуцца ў шэрага ваўка, у яснага сокала ці ў тура з залатымі рагамі. Яшчэ пры жыцці пра яго ўжо складалі паданні. Ва ўсіх усходнеславянскіх землях з пакалення ў пакаленне перадаваліся быліны пра Волха Усяславіча – мудрага валадара, смелага воіна, сына князёўны і лютага Змея, пераможцу індыйскага цара. Правобраз Волха – полацкі князь-вяшчун. Так лічыць і знаўца славянскай даўніны акадэмік Дзмітрый Ліхачоў.



*Усяслаў з сынамі. Мініяцюра з Радзівілаўскага летапісу*



*Полацк часоў Усяслава Чарадзея*

Калі верыць былінам, Усяслаў стаў князем у пятнаццаць гадоў. Такім чынам, вешчуны трымалі на руках немаўлятка з «язвенам» на галаве ў 1029 годзе. Шмат хто з чытачоў гэтай кнігі мае магчымасць дажыць да 1000-гадовага юбілею найславуцейшага з нашых князёў, пра якога захоплена пісаў аўтар «Слова пра паход Ігаравы». Менавіта ў полацкім князі, удачлівым саперніку самога бога Хорса, ён бачыў дзяржаўнага мужа, якога так не ставала славянскім землям перад пагрозаю нашэсця з Усходу.

Летапісы паведамляюць, што, выконваючы волю вешчуноў, князь усё жыццё так і насіў на галаве перавязь. Схаванаму пад ёю таямнічаму «язвену» прыпісвалі «нялітасцівасць Усяслава на кроваправаліццё». Чарадзей сапраўды праліў нямала варожае крыві, але большая частка яго доўгага княжання была ўсё ж прысвечана мірным клопатам. Дзесяць гадоў ён жыў у згодзе з Яраславам Мудрым, потым яшчэ дзесяць – з ягоным сынам кіеўскім князем Ізяславам, якому палачане дапамагалі ваяваць з качэўнікамі-торкамі. Якраз з тых мірных часоў, з паловы XI стагоддзя, плыве над Дзвіною велічны карабель Сафійскага сабора.



***Пярсцёнак князя Усяслава***

Усяслаў узвёў храм у гонар святой Сафіі, каб сказаць свету пра роўнасць з Ноўгарадам і Кіевам, дзе такія саборы з'явіліся трохі раней. Новы храм стаў сэрцам старажытнабеларускай дзяржавы. У Сафіі не толькі маліліся – прымалі паслоў, абвяшчалі вайну і падпісвалі мір, захоўвалі княжацкі скарб і заснаваную Усяслававым дзедам Ізяславам бібліятэку, змацоўвалі пячаткаю стольнага горада гандлёвыя дамовы. Тут вучоныя манахі выводзілі радкі Полацкага летапісу (урыўкі з яго ў XVIII стагоддзі яшчэ чытаў расійскі гісторык Васіль Тацішчаў).

Мірнае жыццё крывіцкага валадара з суседзямі скончылася ў 1065 годзе, калі полацкая дружына здзейсніла паход на Пскоў. Пад 1066 годам кіеўскі летапісец пакінуў нашчадкам такія словы: «Прыйшоў Усяслаў і ўзяў Ноўгарад з жанчынамі і з дзецьмі, і званы зняў са святое Сафіі».

Пасля гэтага Усяслаў каля чвэрці стагоддзя правёў у войнах: зведаў перамогі і паразы, сядзеў у кіеўскай турме, быў вызвалены адтуль і абвешчаны вялікім кіеўскім князем, аднак неўзабаве вярнуўся на радзіму.

У 1077 годзе на Полацк пайшоў вайною чарнігаўскі і смаленскі князь Уладзімір Манамах. Паход скончыўся няўдачай, і тады ў наступным, 1078 годзе, Манамах сабраў дружыны ўсіх паўднёвых княстваў, паклікаўшы на дапамогу ноўгарадцаў і палавецкую арду. І зноў Полацк выстаяў.

Усяслаў з Манамахам сутыкаўся яшчэ не раз. Той нападаў з полаўцамі на Менск і не пакінуў у горадзе «ні чалядзіна, ні скаціны». Былі і іншыя бітвы, але калі ўсходнеславянскія князі сабраліся ў 1097 годзе на з'езд у Любечы, каб дамовіцца кожнаму трымаць «вотчину сваю», Чарадзей не прыехаў. Ён не меў патрэбы нешта з некім дзяліць: ёсць дзяржава, дзе мірна жывуць хрысціяне і паганцы, ёсць войска, што абароніць княства ад усялякага ворага.

За Усяславам Чарадзеем крывіцкая зямля дасягнула вяршыні сваёй магутнасці. Абшарам Полацкае княства было роўнае такім тагачасным еўрапейскім дзяржавам, як герцагства Баварскае ці каралеўства Партугальскае. Апрача сталіцы, дзе жыло каля 10 тысяч чалавек, яно налічвала шаснаццаць гарадоў: Віцебск, Браслаў, Заслаўе, Усвят, Копысь, Менск, Ворша, Лукомль, Друцк, Лагойск, Галацічаск, Барысаў, Стрэжаў, Одрск, Гарадзец і Крывічгорад (на месцы сучаснай Вільні). Улада Полацку пашыралася на Ніжняе Падзвінне да самага Балтыйскага або, як яго тады называлі, Варажскага мора. На землях, дзе жылі продкі сучасных латышоў, стаялі гарады Герсіка і Кукенойс, у якіх сядзелі полацкія васалы.

Камусьці, магчыма, здаецца, што ўсё роўна гэта былі задворкі Еўропы. Аднак сваяцтва полацкай дынастыі Рагвалодавічаў з домам візантыйскіх імператараў Камнінаў кажа пра высокі міжнародны аўтарытэт Полацкай зямлі. Шмат хто з гісторыкаў лічыць, што дачка Усяслава Чарадзея была жонкаю візантыйскага кесара Аляксея. Гэтыя дынастычныя сувязі мелі далёкія палітычныя і культурныя наступствы.

Зямны шлях Усяслава закончыўся ў 1101 годзе. Значнасць ягонай асобы ў славянскім свеце падкрэслівае надзвычай дакладны запіс летапісца: «Памёр Усяслаў, князь полацкі, месяца красавіка на чатырнаццаты дзень, а дзевятай гадзіне дня, у сераду».

Усяслаў Чарадзей пакінуў на радаводным дрэве полацкіх князёў магутную галіну. Акрамя дачкі, дзякуючы якой у жылах візантыйскіх імператараў бегла крывіцкая кроў, ён меў шасцярых сыноў: Барыса-Рагвалода, Давыда, Глеба, Рамана, Святаслава-Георгія і Расціслава.

***Адной моцнай рукі ў крывічоў ужо не было. Менск, Віцебск, Друцк, Лагойск робяцца сталіцамі ўдзельных княстваў, дзе кіруюць Усяславічы. Але той, хто лічыць драбленне дзяржавы праяваю яе слабасці, памыляецца. Падзел на асобныя княствы быў гістарычна непазбежны. Першаю на ўсходзе Еўропы на гэты шлях ступіла Полацкая зямля, што сведчыць пра больш высокую прыступку яе гістарычнага поступу.***

***Уладзімір АРЛОЎ***

# Юныя знаўцы беларускай мовы з Польшчы

У Беларускім таварыстве дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі адбылася ўрачыстая цырымонія ўзнагароджання пераможцаў Усяпольскай алімпіяды па беларускай мове сярод школьнікаў. Для ўдзелу ў цырымоніі, а таксама з мэтай знаёмства з жыццём і славутасцямі нашай сталіцы, прыбыла дэлегацыя вучняў і настаўнікаў, навукоўцаў з Польшчы.

Гэтая алімпіяда праводзілася ў дзесяты раз. Факт, які сам па сабе сведчыць пра многае. У прыватнасці, пра тое, што насуперак усім песімістычным размовам аб быццам бы маючай месца страце цікавасці этнічных беларусаў Польшчы да вывучэння матчынай мовы, іх паступовай і няўхільнай асіміляцыі з прадстаўнікамі тытульнай нацыі, наша мова жыве.

Юбілей алімпіяды – яшчэ і нагода падзяліцца думкамі наконт нялёгкага лёсу і прызначэння беларускай мовы неабходнасці ўзмацнення намаганняў па захаванні яе чысціні і пашырэнні сферы ўжытку. Так, старшыня Беларускага таварыства дружбы Ніна Іванова адзначыла тую ўвагу і значную падтрымку ў правядзенні алімпіяд, якую аказвае камітэт па адукацыі Мінгарвыканкама, сталічныя ўлады ў цэлым .

Кіраўнік дэлегацыі гасцей, старшыня таварыства «Польшча – Беларусь» прафесар Баляслаў Хмеліньскі адзначыў вялікае значэнне алімпіяд для захавання беларускага этнасу ў яго краіне, узаемаўзбагачэння культур двух народаў.

Старшыня аргкамітэта алімпіяды, прафесар Варшаўскага універсітэта Алесь Баршчэўскі прыгадаў, як у гэтай аўтарытэтнай у Польшчы вышэйшай навучальнай установе ў 1956 годзе была створана кафедра беларускай філалогіі. Пазней такія кафедры адкрыліся ў іншых польскіх універсітэтах. Менавіта іх навукоўцы, асабліва з Варшавы, і сталі ініцыятарамі правядзення алімпіяд па беларускай мове. Паводле слоў А. Баршчэўскага, у Польшчы ведаюць і цэняць беларускую літаратуру, паважаюць нашых пісьменнікаў. Прафесар паведаміў, што днямі аўтарытэтная ў Польшчы літаратурная прэмія прысуджана Анатолю Бутэвічу за пераклад твораў польскіх аўтараў. У тым ліку за пераклад аднаго з лепшых раманаў класіка польскай літаратуры Элізы Ажэшкі «Над Нёманам».

*Леанід ЛАХМАНЕНКА*



*Петрапаўлаўскі касцёл у Новым Свержані (Стаўбцоўскі раён). Фота 1930-х гг.*

## Год паміж чытаннямі

*Лунінецкія краязнаўчыя чытанні, наладжаныя 7 снежня 2002 года Лунінецкім раённым музеем і творчым клубам «Муза», былі ўжо другімі. Адпаведна перад чытачом другі выпуск «Лунінецкага сшытка» – у зборніку аб'яднаны не толькі даклады, што прагучалі ў час чытанняў, але і некаторыя іншыя творчыя здабыткі краязнаўцаў і гісторыкаў Лунінеччыны.*

*За год пасля першых чытанняў да такіх здабыткаў далучыліся: удзел Васіля Туміловіча ў VIII Свята-Ефрасінеўскіх чытаннях (Мінск, 2002) з дакладам – працягам тэмы VII чытанняў 2000 года (абодва даклады ўвайшлі ў гэты зборнік); шэраг краязнаўчых публікацый у перыядычным друку Льва Коласава і Сцяпана Нефідовіча; удзел Вадзіма Жылко ў міжнароднай канферэнцыі «Гісторыя, якой няма ў падручніках» (Мінск, 2002; даклад «Дзесяцігоддзе незалежнасці на Лунінеччыне (1991–2001)», надрукаваны ў восьмым выпуску альманаха «Лунінецкая муза», 2002 год; падрыхтоўка тым жа аўтарам даклада «Змены ў гарадскім ландшафце гістарычнай часткі Лунінца» для рэспубліканскай канферэнцыі «Праблемы і шляхі іх вырашэння па захаванні гістарычных цэнтраў гарадоў Беларусі» (Мінск, 2002); выпуск брашуры «Размова з прысутнымі. Уладзіслаў Нядзведскі: старонкі жыцця і творчасці» (Лунінец, 2001); выданне ілюстравана-даведачнага буклета «Памятники земли лунинецкой» (Лунінец, 2002); выхад брашуры Ларысы Панасюк «Чырвоны сшытак Лунінецкага раёна» (Пінск, 2002), якая працягвае тэму, распачатую брашурай Івана Панасюка «Прырода і ахоўваемыя тэрыторыі Лунінецкага раёна» (2000) і інш. У гэтым зборніку, апрача дакладаў і паведамленняў, прадстаўлены таксама пераклад з польскага выдання, звязанага з нашым краем, выяўленыя ў архівах ілюстрацыі.*

***Вадзім ЖЫЛКО,***
***укладальнік зборніка***

# З гісторыі касцёла на Лунінеччыне

***Лунінец знаходзіцца не так далёка ад вельмі важнага асяродка хрысціян-каталікоў – Пінска. Яшчэ ў XVII ст. місіянеры-езуіты адкрылі першыя каталіцкія парафіі на Піншчыне. Асабліва важная роля належала Езуіцкаму калегіуму як навучальнай установе, дзе можна было вучыць дзяцей не толькі рэлігіі, але і свецкім навукам. З тых далёкіх часоў каталікамі Палесся ўшаноўваюцца асобы высокаадукаваных святароў, якія аддалі свае жыцці за веру. У 50-я гады XVII ст. пачасціліся напады казакаў Хмяльніцкага на каталіцкія прыходы Піншчыны і Янава-Палескага. Многія ксяндзы і манахі пакінулі Пінск і ваколіцы.***

У Гарадцы 15 мая 1657 года быў забіты святар-езуіт Шымон Мафон, многа яўрэяў, уніятаў, каталікоў. У сядзібе Прыхоцкіх быў схоплены казакамі ксёндз Андрэй Баболя – «самы вялікі шкоднік, які агітуе люд за прыняцце каталіцкай веры сярод праваслаўных», – такая характарыстыка дзейнасці гэтага каталіцкага святара. У кнізе пра мучаніка за веру Андрэя Баболю ксёндз-езуіт Ян Паплатэк піша: «Айца Андрэя Баболю казакі збілі нагайкамі, прывязаўшы да плоту, потым выбілі зубы – гэтак хацелі прымусіць прыняць праваслаўную веру. Потым, прывязанага між двух коней, гналі 4 км да Янава, б'ючы нагайкамі і шаблямі. У Янаве яго сустрэлі абражальнымі крыкамі і зноў білі, адсеклі на руцэ пальцы, калі ён уздымаў рукі, каб засланіцца ад удараў шабляй. У гэты час чакаў на допыты прывязаны да дрэва уніяцкі святар Ян Залескі, але нехта з мясцовых жыхароў дапамог яму збегчы.

Андрэя Баболю завялі ў хлеў і кінулі на драбіны, на якіх звычайна рассякалі тушы жывёл. Прымушаючы адмовіцца ад каталіцкай веры, прыпякалі яго цела агнём, сціскалі галаву дубовымі абручамі, здымалі скуру з далоняў і галавы. Ён жа прасіў ратунку ў святых, заклікаў катаў апамятацца. Але яны, яшчэ больш раз'юшаныя ўпартасцю Баболі, выкалалі яму правае вока; здзіралі скуру з плячэй і свежыя раны палівалі расолам; потым адрэзалі нос, вусны і язык. Нарэшце падвесілі пад столлю за ногі і пацяшаліся, як цела корчылася ў канвульсіях».

Так скончыў сваю зямную пілігрымку апостал любові і еднасці Андрэй Баболя, якога ўшаноўваюць каталікі ўсяго Палесся. У 1853 годзе Андрэй Баболя быў беатыфікаваны папам Піусам IX.

У XVIII ст. у Пінску на замену езуітам з'явіліся місіянеры францысканцы. У выніку іх дзейнасці каталіцкая вера больш шырока распаўсюдзілася на Палессі. Быў пабудаваны ў Пінску касцёл – зараз галоўны касцёл-катэдра Ушэсця Найсвяцейшай Марыі Панны. Побач з касцёлам вырас будынак Духоўнай семінарыі, якая пачала рыхтаваць святароў у 1925 годзе. Кожны з вернікаў Палесся ведае імя ксяндза-біскупа Зыгмунта Лазінскага, які вельмі многа зрабіў для выхавання святароў у Пінскай Духоўнай семінарыі. У святарскай і біскупскай паслузе ён вызначаўся мужнасцю, асабліва ў цяжкіх палітычна-рэлігійных сітуацыях. Асаблівай увагі заслугоўваюць дасягненні біскупа Зыгмунта Лазінскага на экуменічным шляху ў адносінах да праваслаўных. Пасля смерці біскупа, у Вялікую суботу 26 сакавіка 1932 года, у Пінску былі распачаты старанні аб яго беатыфікацыі. Але Другая сусветная вайна, нялёгкі для вызнання рэлігіі пасляваенны час затрымалі клопаты аб вынясенні біскупа З. Лазінскага да хвалы алтароў. Дзякуючы клопатам кардынала Казіміра Свёнтака ў справе беатыфікацыі біскупа З. Лазінскага, 2 красавіка 1993 года Апостальская Сталіса абвясціла Дэкрэт, у якім гаворыцца пра значнасць асобы біскупа З. Лазінскага і яго шматграннай і гераічнай дзейнасці як каталіцкага святара. Да гісторыі касцёла ў Лунінцы біскуп З. Лазінскі мае непасрэднае дачыненне.



Лунінецкі раённы краязнаўчы музей

ЛУНІНЕЦКІ СШЫТАК № 2

*Матэрыялы другіх Лунінецкіх краязнаўчых чытанняў 7 снежня 2002 г.*

г. Лунінец
2003 г.

Каталікі, якія з даўніх часоў жылі ў Лунінцы, належалі да францысканскай парафіі ў Пінску. У 1903 годзе стараннямі Яна Кухарскага была збудавана драўляная капліца Ушэсця Маці Божай на каталіцкіх могілках, што існавалі да канца 1960-х гадоў на выездзе з Лунінца ў напрамку Пінска. Гэтая капліца была філіялам парафіяльнага касцёла ў Пінску. У гэтай капліцы, па ўспамінах старэйшых каталікоў, былі вельмі прыгожыя скульптурныя выявы святых, анёлаў, херувімаў з чорнага, белага і чырвонага мармуру. У канцы цвінтара знаходзіліся добра дагледжаныя магілы салдат Першай сусветнай вайны розных нацыянальнасцяў, польскіх салдат, загінуўшых у 1919 годзе. Яшчэ доўга за могілкамі можна было бачыць сляды даўніх акопаў. У студзені 1922 года біскуп Зыгмунт Лазінскі засведчыў стварэнне самастойнай парафіі ў Лунінцы. Першым яе пробашчам стаў ксёндз Генрых Гумніцкі, канонік Мінскай капітулы. Лунінецкую капліцу праездам наведаў Польскі маршалак Юзаф Пілсудскі і, бачачы яе ўбогасць, пажадаў пробашчу і парафіянам будаваць новы прыгожы касцёл. Пажаданне гэта здзейснілася ў 1931 годзе, дзякуючы складкам вернікаў, дабрачынцаў і дапамозе дзяржавы. Пакуль будаваўся касцёл, набажэнствы адпраўляліся ў чыгуначным будынку. Потым у ім была гімназія, а зараз – шпіталь чыгуначнікаў. Парафіянаў было каля 1500 асобаў. Да Лунінецкай парафіі належалі каталікі Лунінца, Дзятлавіч, Новага Двара (Купаўцоў).

За год да смерці, у 1931 годзе, біскуп Зыгмунт Лазінскі асвяціў новы будынак касцёла парафіі Святога Юзафа. Касцёл быў кансакраваны 11 ліпеня 1935 года біскупам з Пінска Казімірам Букрабам.

У пачатку 30-х гадоў на Лунінеччыне касцёлы былі ў Мікашэвічах, Лахве, Сінкевічах, Кажан-Гарадку, Луніне.

Больш за 15 святароў працавалі ў Лунінецкім касцёле Святога Юзафа да канчатковага закрыцця яго савецкімі ўладамі ў 1948 годзе.

Лёсы многіх з іх былі вельмі трагічнымі. Ксёндз Станіслаў Пяткевіч быў арыштаваны НКУС і вывезены ў Казахстан, дзе і памёр у 1943 годзе, ксёндз Фабіян Пачобут Адляніцкі быў расстраляны немцамі ў Казляковічах каля Пінска ў 1944 годзе; ксёндз Станіслаў Сперанскі памёр у канцлагеры Дахаў у 1941 годзе. А ксяндза Мечыслава Багаткевіча расстралялі гестапаўцы 5 сакавіка 1942 года на поўначы Беларусі пад Баразвэчам. Яго самаахвярнае святарскае служэнне Богу і людзям і гераічная смерць паслужылі асновай для беатыфікацыі.

З 1948 па 1994 год каталікі Лунінеччыны на набажэнствы ездзілі ў Пінск, у Баранавічы, дзе былі дзеючыя святыні. Першае набажэнства ў нашым раёне пасля такога доўгага перапынку адбылося 11 ліпеня 1994 года на Белым возеры, калі быў асвечаны помнік ахвярам фашызму ксяндзом Юзафам Войдам. Ён грамадзянін Польшчы, але ўжо восем гадоў служыць у Ганцавічах і прыязджае кожную нядзелю ў Лунінец.

Тры гады, з 1994 па 1997-ы, набажэнствы ў Лунінцы адпраўляліся на розных прыватных кватэрах, бо будынак касцёла быў заняты хрысціянамі веры евангельскай. Шмат намаганняў было затрачана, каб будынак касцёла быў прызнаны ўласнасцю каталікоў парафіі Святога Юзафа. Першая імша пасля больш чым пяцідзесяцігадовага перапынку адбылася ў будынку Лунінецкага касцёла 13 красавіка 1997 года. Да нас прыязджаюць і нам пішуць тыя каталікі, хто ў 1930-я гады жыў у Лунінцы і яго ваколіцах, быў ахрышчаны ў нашым касцёле, у каго з Лунінцом звязаны ўспаміны дзяцінства, маладосці. Такім чынам, мы пазнаёміліся з Вандай Бялецкай з роду Неміровічаў-Шчытоў, якая жыве ў Варшаве. Два разы ў Лунінец прыязджала Галіна Базылеўская, дачка Эдварда Вашчука, які быў адзначаны Папам Рымскім як фундатар будаўніцтва касцёла ў Лунінцы ў 1930 годзе. Прыязджаў у Лунінец летам 2001 года Рышард Запольскі-Доўнар, бацька і маці якога працавалі настаўнікамі ў 1930-я гады на Лунінеччыне. Сам Рышард быў ахрышчаны ў нашым касцёле, зараз з сям'ёю жыве ў Мальборку.

На працягу двух гадоў кожную вясну ў Лунінец прыязджаюць пілігрымы з Польшчы, члены Таварыства распаўсюджвання ведаў пра Андрэя Баболю. Гэта ў асноўным людзі, звязаныя сваёй маладосцю з Лунінцом і яго ваколіцамі.

Паўстагоддзя бязвер'я спустошылі людзей – трэба ўсё пачынаць нанова: аднаўляць будынак святыні і самае галоўнае – аднаўляць жывы касцёл.

***Эльжбета ЛІБЕРМАН,***
***настаўніца Палескай СШ***



Лунінецкі раённы краязнаўчы музей

ЛУНІНЕЦКІ СШЫТАК №1

*Матэрыялы першых Лунінецкіх краязнаўчых чытанняў 25 лістапада 2001 г.*

г. Лунінец
2002 г.

# Крыжы-абярэгі ды саламяныя стрэхі

*Ой, дзе вы, дзе вы,*
*Крыжы-абярэгі?*
*Не дайце, не дайце*
*Айчыне загінуць...*

Радкі з верша Міхася Башлакова сведчаць аб той ролі, якую здаўна ўскладваў беларускі народ на крыжы-абярэгі, што ўстанаўліваліся ў кожнай вёсцы. Народная традыцыя адналялецца: зноўку ў вёсках мы бачым крыжы-абярэгі. На божыя святы з малітвай жанчыны ручнік ускладалі на крыж пуцявіны і білі паклоны, каб Бог злітаваўся, не нёс вёсцы згубы. Ад буры, пажару, вады і маланкі ахоўвалі стрэхі крыжы-абярэгі. І ў свет адпраўлялі, і зноў сустракалі з вялікай дарогі, жыццё ўсё ішлі людзі к крыжам-абярэгам. І ў шлях іх апошні ішлі да пагосту крыжы-абярэгі...

«Чатыры крыжы-абярэгі ўстанавілі жыхары адной з вёсак беларускіх, – распавядае экскурсавод школьнікам у Беларускім дзяржаўным музеі-запаведніку «Менка», непадалёк ад якога знаходзіцца гарадзішча, дзе быў заснаваны ў 1067 годзе Менск, цяперашні Мінск, сталіца Беларусі. Адзін крыж устаноўлены быў перад Першай сусветнай вайной, другі – у час рэвалюцыі, трэці – у пачатку калектывізацыі, чацвёрты – у пачатку Вялікай Айчыннай вайны. Фашысты ці спалілі, ці абрабавалі ўсе навакольныя вёскі, а гэтая вёска ацалела, і да вайны людзі не зведалі менш няшчасця, чым жыхары іншых вёсак, таму людзі сцвярджалі, што іх ратавалі крыжы-абярэгі.



Каменны крыж у в. Камаі Пастаўскага раёна

Даследчыкі сцвярджаюць, што ўсе дзеянні, якія рытуальна выконвае чалавек у асаблівых абставінах, нараджаюць асобую ахоўную псіхалагічную энергію, якая перадаецца, якой зараджаюцца тыя вырабы, на якія напраўлена энергія. Гэтым яны вытлумачваюць і ўзнікненне веры людзей у выратавальную сілу крыжоў-абярэгаў, ручнікоў, якія таксама асобую ролю мелі ў жыцці сялянскім ад нараджэння дзіцяці. Ручнік – у кожнай сялянскай хаце: ён і на бажніцы, ён і на радзінах, ён і на вяселлі на плячах у свата, ён пакрываў хлеб на стале ў сялянскай хаце спрадвеку, гасцей сустракалі і сустракаюць хлебам-соллю, на ручніку падаюць хлеб-соль. З ручніком абыходзілі вёску, абносілі ручніком з абразком хаты, каб адвесці ліха, у час пажару абносілі абразком, прыкрытым ручніком, месца пажару, каб змяніць напрамак ветру, калі ён дзьмуў у бок пабудоў.

Прыгожымі абрадамі пачыналіся і заканчваліся ўсе асноўныя работы ў гаспадарцы.

Вось такія думкі нарадзіліся пасля двухгадзіннай экскурсіі вучняў Азерскай СШ па музеі, які паказвае ўсё лепшае, што створана народам беларускім у сваім побыце. Экспанаты музея пад адкрытым небам – гэта сялянскія пабудовы XIX – пачатку XX стагоддзя: хаты з саламянымі стрэхамі, пуні, свірны, гумны. Школа з жыллём для настаўніка, царква, карчма – грамадскія пабудовы. Усе пабудовы з дрэва. Прадстаўлена драўляная архітэктура Беларусі з розных рэгіёнаў. Цяпер у музеі дзейнічаюць тры сектары, мяркуецца стварыць яшчэ чатыры. Па розных рэгіёнах – свае асаблівасці забудовы, побыту. Плошча – 250 гектараў. Экскурсія пешаходная, мясцовасць – з узгоркамі, падлескамі. Вельмі прыгожае месцазнаходжанне музея, хораша тут вясной, летам, восенню, і зімовае ўбранства таксама казачнае, таму пры добрым надвор'і гэта і адпачынак на прыродзе.

Музей прымае наведвальнікаў з 1977 года. Надзвычай цікава расказвае экскурсавод на роднай мове беларускай пра асаблівасці забудовы вёскі, пра побыт сялянскі, пра звычаі і абрады, запрашае ў хаты – заходзьце, калі ласка, спасцігайце багацце душы народа, багацейце душой самі.

Экскурсію арганізавалі настаўніцы Азерскай школы Аляксандра Віталеўна Казей і Святлана Анатольеўна Зубела для 40 вучняў старэйшых класаў. Аўтобус заказвалі ў экскурсійным цэнтры, які знаходзіцца ў Траецкім прадмесці. Кошт – 63 тысячы рублёў. Аўтобусам вучні выехалі з Возера ў 10 гадзін раніцы і былі дастаўлены дамоў у 14 гадзін гэтым жа аўтобусам. Асобны платай за экскурсаабслугоўванне не патрабуецца. У мінулым навучальным годзе такім жа чынам праводзілі экскурсіі ў Заслаўе. Плата памяркоўная, уражанні ад такіх экскурсій варты грашовых страт на іх.

***Наталля ВАЙЦЯХОВІЧ,***
***кіраўнік краязнаўчага гуртка пры Азерскай СШ ад раённага цэнтра дзіцячага турызму, настаўніца матэматыкі, Уздзенскі раён***



Майстрыха В. Шафарэнка з Галоўчыцаў Нараўлянскага раёна

*Знаходкі*

## Невядомыя рукапісы Пятра Бяссонава

Погляды на беларускі фальклор вядомага вучонага і публіцыста Пятра Бяссонава (1828–1898) да нядаўняга часу характарызаваліся пераважна на падставе яго прадмовы да зборніка «Беларускія песні з падрабязным тлумачэннем іх творчасці і мовы, з нарысамі народнага абраду, звычаю і ўсяго побыту» (1871).

І вось у Санкт-Пецярбургу, у Расійскай нацыянальнай бібліятэцы, выяўлены два невядомыя рукапісы П. Бяссонава: «Гісторыя Беларускага краю, яе патрэбнасць і неабходнасць» і «Сепаратызм у Паўночна-Заходнім краі. Апавяданні відавочца». Іх увяла ў навуковы ўжытак старшы выкладчык кафедры гісторыі і музеязнаўства Беларускага дзяржаўнага універсітэта культуры Настасся Гулак. Яе публікацыя «Невядомы нарыс Пятра Бяссонава пра Беларусь» змешчана ў «Весніку Беларускага дзяржаўнага універсітэта» (Серыя 4. 2003. № 3). Ёй жа належыць аўтарства артыкула «Ідэі заходнерусізму ў «Гісторыі беларускага краю» Пятра Бяссонава» (Беларускі гістарычны часопіс. 2004, № 4).

*Таццяна ПЯТРОВІЧ*

# На колах па «кольцу» гомельскага Пасожжа

Тое ўжо ўвайшло ў размеранае жыццё турыстычных комплексаў «Хлупінская Буда» і «Казачок» Нацыянальнага парка «Прыпяцкі», што тут няма свабодных месцаў ажно да канца лета. Яшчэ да пачатку сезона іх скупілі італьянцы, якім спадабалася тут адпачываць.

У далейшым «Прыпяцкі» стане адным з пунктаў «Залатога кольца Гомельшчыны» – галоўнага турыстычнага маршруту вобласці, які ўжо ў верасні стане рэальнасцю. Акрамя запаведніка, у «Залатое кольца» уключаны Веткаўскі музей стараверскай культуры, гарадская ратуша ў Чачэрску (XVIII стагоддзе), Краснабярэжскі сядзіба-паркавы комплекс (Жлобінскі раён, XIX стагоддзе), Замкавая гара і старажытнае гарадзішча ў Тураве. А таксама горы і манастыр цыстарыянак (XVIII стагоддзе) у Мазыры, музей гісторыі Вялікай Айчыннай вайны пад адкрытым небам у Лоеве і, вядома ж, Палацава-паркавы ансамбль Румянцавых – Паскевічаў у Гомелі.

Праўда, усе кропкі «кольца» размешчаны даволі далёка адна ад адной, у Чачэрску ці Лоеве няма сёння інфраструктуры, якая б магла задаволіць нашага айчыннага турыста, тым больш замежнага. Але і тое праўда, што для падрыхтоўкі маршруту выдзелены бюджэтныя сродкі на рамонт гасцініц у райцэнтрах. Ды былі б яшчэ добрыя дарогі пад коламі аўтобусаў. Як не трэба забываць, што падарожжы водным шляхам па Дняпры, Прыпяці і Сожы каля гэтых кропак таксама могуць дадаць каларыту турыстычнаму камфорту.

*У Веткаўскім музеі народнай творчасці*



*Старажытныя модніцы*




## Ці хораша ты, дзяўчыначка, прыбраная?

### АЧЭЛЛЕ

***(Заканчэнне. Пачатак у № 28)***

Каруна ўзнікла ў выніку сінтэзу народных і вялікакняжацкіх галаўных убораў яшчэ ў дамангольскі час. Да гэтага перыяду (канец XI, асабліва XII – пачатак XIII стагоддзяў), відавочна, можна аднесці фарміраванне галаўных убораў тыпу паўночных карун накшталт дарагіх вялікакняжацкіх галаўных убораў з металу. Пры гэтым у дэкор убору ўключаўся спаконвечны народны вянец – вянок з кветак.

Узмацняе эфект вянца арнамент разеткі на ўсіх гранях пацерак «аграфа», што яшчэ ў большай ступені робіць ачэлле з Вярэцця з вянком з жывых кветак, і гэта, у пэўнай ступені, заводзіць нас у сімволіку духоўнага разняволення.

***А. РАСІНСКАЯ,***
***загадчык аддзела Брэсцкага абласнога краязнаўчага музея***



Берасцянка ў ачэллі







# «Дрэва жыцця» Каміла Камала

***У невялічкім скверыку ля Дома культуры трактарнага завода адкрыўся новы фантан з падсветкай. Вылітыя з бронзы скульптуры і дрэва з птушачкамі на галінках, а зверху – маленькі хлопчык. Усё гэта харaство зрабіў таленавіты беларускі мастак Каміл Камал, які вось ужо больш за дваццаць гадоў жыве і творыць у Мінску.***

Азербайджанец па паходжанні, ён нарадзіўся ў Грузіі. Скончыў Бакінскае мастацкае вучылішча, потым паступіў у інстытут жывапісу імя Рэпіна ў Санкт-Пецярбургу на кафедру жывапісу, дзе працаваў выкладчыкам знакаміты мастак Яўсей Маісеенка. Далей ён вучыўся ў Беларускім тэатральна-мастацкім інстытуце ў такіх вядомых народных мастакоў нашай краіны, як Гаўрыла Вашчанка і Май Данцыг. Менавіта вучоба ў гэтай установе і развіла талент мастака, бо калі паглядзіш на высокапрафесійныя скульптуркі фантана, адразу задумаешся, якое майстэрства трэба мець, каб так аздобіць мясцовасць – зусім невялічкі кавалачак зямлі, а якая цікавая прывязка!

Большасць яго жывапісных палотнаў не мае назваў, ён быццам прымушае гледача самому расстаўляць сэнсавыя і эстэтычныя акцэнты. А вось гэтаму фантану мастак даў назву «Дрэва жыцця». Зліццё чалавека з прыродай, усплёскі вады ў фантане, зялёныя дрэвы вакол – усё настройвае на паэтычнае бачанне.

– Дрэва для мяне азначае зямны шар, сям'ю, родны дом, род, Радзіму, – распавядае Каміл Камал. – Як бы ў адзіным цэлым спляліся маці і бацька: яны пасадзілі гэта дрэва для таго, каб яно дало плады, а ў гэтай кампазіцыі плады – дзіця, птушкі – душа чалавека, якая заўсёды імкнецца да палёту. І безумоўна, кожны хоча, каб яго дзеці былі лепей за ўсіх, каб ім было добра і ўтульна на нашай прыгожай зямлі.

Трэба адзначыць, што Каміл Камал сустрэў на нашай зямлі прыгажуню-беларусачку Ірыну Бурцаву, таленавітую актрысу Мінскага драматычнага тэатра «Дзе–Я?». У іх расце сын Руслан, які вучыцца ў дзевятым класе сярэдняй школы і марыць стаць архітэктарам. Ён ужо не толькі добра малюе, але і грае на скрыпцы... А таму і фантан нагадвае сямейную ідылію – маці, бацька, сын...

*Галія ФАТЫХАВА, «Рэспубліка»*

***Давайце вяртаць свае назвы!***

# Не Чэрвень, а Ігумень

***Што толькі ні рабілі бальшавікі, каб людзі забыліся пра Госпада нашага: не задавальняючыся атэістычнай прапагандай, рушылі Божыя храмы, мянялі назвы гарадоў, мястэчак і вёсак, якія хоць чым-небудзь напаміналі пра Бога.***

Пад тую бязлітасную сякеру трапіў і Ігумень з яго шматвекавой гераічнай, а найбольш трагічнай, гісторыяй. За тое, што быў так, магчыма, названы ў гонар ігуменні, якая заснавала некалі ў гэтым краі першы манастыр. Ігумень упамінаецца ў летапісах 1387 года ў складзе Мінскага павета Вялікага княства Літоўскага. Шмат разоў яго спусташалі, знішчалі заваёўнікі з захаду і ўсходу. У час трынаццацігадовай крывапралітнай вайны 1654–1667 гадоў, якую вяло Вялікае княства Літоўскае супраць царскай агрэсіі, Ігумень амаль дашчэнту быў спалены заваёўнікамі, а насельніц-тва на 47 працэнтаў вынішчана ці вывезена ў палон у Масковію. Гэта былі найперш самыя лепшыя майстры: кавалі, кафляры, разбяры, лямцаўшчыкі, скураных спраў рамеснікі і іншыя. Гвалтам адарваныя ад сваёй зямлі, працавалі цяпер яны ў суседзяў. Колькі няшчасцяў нашым продкам, якія тады называліся ліцьвінамі, прынеслі сквапныя да чужога дабра такія бязлітасныя заваёўнікі, як Іван Жахлівы (Іван Грозны), Пётр I! Цяжка было акрыяць ад тых катастроф. Праз кожныя два-тры дзесяцігоддзі мірнай перадышкі зноў і зноў адбываліся нашэсці і спусташэнні. Але ігуменьцы сваёй руплівай працай упарта адраджалі свой край і свой горад, як з попелу адраджалася легендарная птушка Фенікс. У 1793 годзе Ігумень увайшоў у склад Расійскай імперыі. Жудаснай была і апошняя, нямецкая акупацыя 1941–1944 гадоў, калі было забіта і спалена жывымі некалькі тысяч мірных жыхароў.

18 верасня 1923 года рэвалюцыйныя «рацыяналізатары», не пытаючыся згоды ігуменьцаў, памянялі назву іх горада на Чэрвень.

Працуючы над кнігай пра сваё роднае мястэчка Смілавічы, у Беларускім дзяржаўным гістарычным архіве я спрабаваў знайсці адказ, чаму горад назвалі Чэрвень. Быў упэўнены, што назва нейкім чынам звязана з якімі-небудзь сімвалічнымі падзеямі. Яна, аказваецца, проста ад назвы месяца чэрвеня. З такім жа поспехам горад маглі б назваць Студзенем, Лютым... Як не дадумаліся назваць яго Кастрычнікам – па назве месяца, калі быў здзейснены Кастрычніцкі пераварот, які праз дзесяць гадоў назвалі Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыяй?! Але галоўная мэта была дасягнута: вынішчана ўпамінанне пра яго заснавальніцу.

Як пустазелле пускае глыбокія карані там, дзе раслі раней культурныя расліны, так і адлучэнне ад Бога прывяло да таго, што буйным чартапалохам расквітнелі п'янства, разбэшчанасць, а пазней – наркаманія. Для многіх бацькоў спіртное стала даражэй (цяжка ў гэта паверыць!) за шчасце родных дзяцей, якіх нярэдка яны мораць голадам і кідаюць на волю лёсу. Дзяцей-сірат пры жывых бацьках цяпер стала больш, чым пасля страшэннай вайны з фашызмам, якая пракацілася па нашай зямлі шэсць дзесяцігоддзяў таму. Дзеці ў сваю чаргу перасталі паважаць бацькоў. Сын аднаго вельмі паважанага мною смілавічаніна, будучы вучнем, падаваў вялікія надзеі: займаў высокія месцы на розных алімпіядах і спартакіядах і меў усе шанцы з цягам часу праславіць сваё мястэчка. Дык не! Заглушыў Божы дар «барматухай» – ужо некалькі разоў ад алкагольнага атручэння стаяў, можна сказаць, на краі магілы, ды ўрачы ратавалі. Я раіў гэтаму маладому чалавеку пайсці ў царкву, паспавядацца, ачысціцца ад грахоў і малітвамі айца Валяр'яна папрасіць Госпада дапамагчы збавіцца ад згубнай звычкі. Не. Не хоча. Моцна трымае яго сатана. Паўбяды, калі б такіх было мала. На жаль, іх вельмі шмат.

Дзесяцігоддзі тры таму ў Мінск прыязджаў прэзідэнт ЗША Рычард Ніксан. Ён быў вельмі зачараваны нашымі жанчынамі. Па словах амерыканскага прэзідэнта, беларусачкі – самыя прыгожыя ў свеце. Думаю, ён меў рацыю, паважаючы прыгожую палову нашага народа. Але нашы дзяўчаты і жанчыны такія прыгожыя не толькі дзякуючы спрыяльнаму клімату (як сцвярджаюць вучоныя), а яшчэ і таму, што іх бабкі і прабабкі верылі ў Бога і прытрымліваліся здаровага ладу жыцця. Цяпер жа на кожным кроку можна сустрэць дзяўчыну, якая без сораму трымае цыгарэту ў адной руцэ і пляшку піва – у другой. Калі так будзе працягвацца яшчэ нейкі час, то праўнучкі сённяшніх дзяўчат будуць не ўражваць іншаземцаў прыгажосцю, а пужаць іх хілым, бяззубым уродствам.

Прачытаўшы гэтыя радкі, магчыма, нехта здзівіцца: якія адносіны маюць цыгарэты з алкаголем да назваў гарадоў? А прамыя, скажу я вам, таму што ўсе гэтыя з'явы – аднаго поля ягады. Бязбожжа і страта спрадвечных каштоўнасцяў абарвалі нашу сувязь з продкамі, якія абаранялі нас ад розных няшчасцяў.

Да нядаўняга часу Чэрвеньскі раён быў самым бязбожным у Беларусі. Тут не працаваў ні адзін храм. У маім родным мястэчку Смілавічы ў трыццатыя гады былі знішчаны ўсе храмы: праваслаўныя, каталіцкія, іудзейскія, мусульманскія. Лозунг «Рэлігія – опіум для народа» тут успрымаўся як закон. Час паказаў, што не рэлігія, а бязбожжа – сапраўдная атрута для народа. На шчасце, да ўладаў і людзей паступова вяртаюцца розум і памяць. У Смілавічах стараннямі айца Валяр'яна і прыхаджан адбудоўваецца і прыгажэе Свята-Георгіеўская царква. У ёй пры немцах мяне хрысцілі. Доўгія гады ў гэтым будынку быў клуб, склад запчастак, мэблевая крама. Цяпер у час малебнаў тут шмат прыхаджан, асабліва ў сераду і суботу. У гэтыя дні, калі айцец Валяр'ян малітвамі лечыць людзей, уся пляцоўка вакол храма застаўлена аўтамабілямі. Людзі едуць сюды не толькі з розных куткоў Беларусі, але і з Расіі, Прыбалтыкі, Украіны. Іншы раз прыязджаюць вернікі нават з Францыі, Германіі, Манголіі. Калі б не дапамагаў айцец – не ехалі б. Малітвы айца Валяр'яна, вучня святога Пятра з Рымскай пустэчы, дапамагаюць людзям вылечыцца ад розных хвароб.



*Свята-Георгіеўская царква і яе настаяцель*

Насупраць, праз дарогу, дзе цяпер аляпаваты кінатэатр з назвай «Мечта», да трыццатых гадоў стаяў прыгожы касцёл, у якім хрысцілі Станіслава Манюшку ў 1820 годзе, і кляштар місіянераў, пабудаваныя на сродкі памешчыцы Марцыбіліяны Агінскай і яе брата гетмана Вялікага княства Літоўскага Міхаіла Казіміра Агінскага. На жаль, яго ўжо не аднавіць. Але трэба аднаўляць хоць бы тое, што яшчэ засталося. Аб гэтым, абмяркоўваючы фрагменты маёй новай кнігі «Мястэчка над Волмай», гаварыў і настаяцель Свята-Георгіеўскай царквы айцец Валяр'ян. Ён вельмі здзіўляўся, чаму да гэтага часу Чэрвеню не вернута яго спрадвечная назва Ігумень. Сапраўды – чаму? У Мінску паступова вяртаюць гістарычныя назвы вуліцам і плошчам. Вось і Чэрвеньскі тракт цяпер, як і некалі, называецца Ігуменьскім.

Наспела пара і чэрвеньскім раённым уладам ініцыіраваць вяртанне свайму гораду яго гістарычнай назвы – да яго 620-годдзя ў 2007 годзе. Тым больш, што людзі даўно чакаюць гэтай падзеі. У Смілавічах, адпраўляючыся ў райцэнтр, кажуць: «Еду у Ігумень». На шахматным турніры ў 1959 годзе, калі я стаў віцэ-чэмпіёнам горада, шахматысты заўсёды любоўна называлі свой горад Ігуменем. Не могуць забыць дарагую сэрцу назву і паэты Чэрвеньшчыны. Аб гэтым сведчыць паэтычны зборнік «Мая Ігуменьшчына», які нядаўна трапіў мне ў рукі.

У Ігумені да рэвалюцыі было шырока развіта пчалярства, аб чым сведчыць і герб, які горад атрымаў у 1796 годзе. На блакітным полі – срэбны куст кветак і пяць залачоных пчол на ім. А пчаляры, як вядома, дбайныя і руплівыя гаспадары. Ігуменьскі край да рэвалюцыі быў даволі заможны, а не такі, як бачаць яго праімперскія гісторыкі ў сваіх падручніках па гісторыі – краем лапцей, балот і камароў. Хочацца спадзявацца, што з вяртаннем страчанай памяці і назвы горада вернецца сюды і багацце – як матэрыяльнае, так і духоўнае.

Пытанне аб вяртанні гістарычных назваў Беларусі, на жаль, да нядаўняга часу падымала толькі «Звязда» пад рубрыкай «Ігуменьскі шлях». Апошнім часам, дзякуй Богу, да яе далучылася яшчэ адно выданне, новая і вельмі цікавая «Краязнаўчая газета», якая на сваіх старонках публікуе матэрыялы энтузіястаў гэтай святой справы.

Нашым уладам трэба павучыцца ў суседкі і саюзніцы Расіі, дзе даўно вярнулі многія гістарычныя назвы. Нядаўна ў Маскве, дзе не быў шмат гадоў, ішоў я па шырокай вуліцы, каб паглядзець на Красную плошчу і Крэмль. Раней вуліца гэта насіла імя вялікага рускага пісьменніка Максіма Горкага. Маскоўскія ўлады не пабаяліся вярнуць ёй гістарычную назву Цвярская. А мы, чамусьці, такія нясмелыя – усё баімся вяртаць нашы спрадвечныя назвы.

***Уладзімір ШУЛЯКОЎСКІ***





# Споведзь саракавых

2004 год для Рэспублікі Беларусь юбілейны. 60 гадоў мінула з часоў вызвалення нашай зямлі ад нацысцкай навалы. Саракавыя, іх пачатак, сталі цяжкім выпрабаваннем для народаў свету, асабліва для краін, акупаваных войскамі гітлераўскай Германіі. Доўгіх тры гады наша зямля была плацдармам пакутаў і змагання. Тут сышліся ў смяротнай барацьбе розныя палітычныя плыні і ідэалогіі – камуністычная, нацысцкая, нацыянальная, гуманістычная і антыгуманная.

Перыяд 1941–1944 гг. быў адным з самых неадназначных у гісторыі Беларусі і яе шматпакутнага народа. Вайна і акупацыя разарвалі краіну паміж рознымі дзяржаўнымі і адміністрацыйнымі тэрыторыямі, раскалолі беларускі народ на некалькі непрымірымых лагераў, развялі па розныя бакі барыкад суседзяў, сваякоў, сяброў.

Але нягледзячы на шматлікія выпрабаванні, беларускі народ здолеў выжыць, захаваць сваю нацыянальную тоеснасць, свой культурны код і традыцыі. Праўда, вайна досыць моцна паўплывала на светапогляд людзей, што адлюстравалася ў пэўных культурных інавацыях, асабліва ў традыцыйным народным мастацтве.

Як і ўсе рэспубліканскія музеі, Беларускі дзяржаўны музей народнай архітэктуры і побыту сустрэў вялікую дату 60-годдзя вызвалення Беларусі ад нацыстаў выставай, якая ганарова адкрылася 1 ліпеня, якраз напярэдадні юбілейных святкаванняў. Што мог прапанаваць да такой даты музей чыста этнаграфічнага профілю, у калекцыях якога практычна адсутнічаюць музейныя прадметы, звязаныя з гісторыяй Другой сусветнай вайны?

Музей прапанаваў цікавую і арыгінальную выставу, якая адлюстравала не столькі гістарычныя падзеі, колькі матэрыяльную культуру на Беларусі ў варунках акупацыі і змены ў традыцыйнай культуры і мастацтве, якія адбыліся пад уплывам падзей першай паловы 40-х гг. XX стагоддзя. І нездарма выстава Беларускага дзяржаўнага музея народнай архітэктуры і побыту атрымала назву «Споведзь саракавых».

Выстава прысвечана 60-годдзю вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. На ёй прадстаўлены творы народнага мастацтва і рэчы побыту 40–50-х гадоў мінулага стагоддзя. Як сімвал неўміручасці беларускай культуры ў цэнтры ўвагі змешчаны абраз XIX ст. «Маці Божая Ціхвінская» (беларускай школы іканапісу). У 1943 г. ён быў вынесены з падпаленай фашыстамі хаты ў в. Катынічы Лельчыцкага р-на Гомельскай вобл. Другі раз ён выратаваны ў 1992 г., калі быў вывезены з Чарнобыльскай зоны супрацоўнікамі музея. Усяго на выставе больш за 200 экспанатаў. Гэта ўзоры традыцыйнага народнага мастацтва даваеннага часу: абраз Маці Божай (веткаўскай школы іканапісу, пач. XX ст.), пашкоджаны кулямі немцаў; палескі строй жанчыны; музычныя інструменты; тканыя ручнікі, аздобленыя вышыўкай і карункамі; паясы і іншыя музейныя прадметы.

Фрагмент вясковага інтэр'ера знаёміць з узорамі дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва пасляваеннага часу. Тут можна ўбачыць малюнкі на шкле, дываны з роспісам і аплікацыямі, вырабы з абрэзкаў, новыя віды вышыўкі, плеценую з лазы мэблю.

Шэраг музейных прадметаў адлюстроўвае сутыкненне розных ідэалогій, бітву нябачнага фронту: радыёпрыёмнікі, фотаапараты савецкія і нямецкія, газеты ваеннага часу, грошы і інш.

Адзін з раздзелаў выставы прысвечаны дзейнасці партызан, іх побыту. Тут паказаны фотадакументы, вопратка і неабходныя для працы камандзіра рэчы. У цэнтры – фотапартрэт аднаго з арганізатараў партызанскага руху – Васіля Іванавіча Казлова. Верхні ярус гэтай часткі экспазіцыі знаёміць з жывымі замалёўкамі мастака – партызана Марчука Аляксандра Васільевіча. Творы 1942–1944 гг.

Розныя рэчы з экіпіроўкі гітлераўцаў можна ўбачыць на пачатку агляду.

Апошні раздзел выставы «Рэха вайны. Памяць». Тут каскі, знойдзеныя ў нашы дні на палях былых баёў, фрагменты дрэў з кулямі і асколкамі ад снарадаў. На сцяне крыж, знойдзены на папялішчы культавага збудавання. Гэты крыж – знак уваскрэшання народа з пакутаў, уваскрэшання яго культуры, мастацтва.

*Антон АСТАПОВІЧ, намеснік дырэктара БДМНіП,*
*Валянціна МАЛЮШЫНА, галоўны захавальнік БДМНіП*




*Фота Міхася КЕНЬКІ*

## Калі «...ткаць залатыя паясы»?

І нарэшце, пра вечнае, пра славутыя слуцкія паясы, апетыя яшчэ Максімам Багдановічам. Пра падпяразванне імі. Калі, як кажуць, дзень дзяньскі стаялі чэргі каля гандлёвай палаткі РУП мастацкіх вырабаў «Слуцкія паясы» на нядаўняй чацвёртай Міжнароднай універсальнай аптова-рознічнай выстаўцы-продажы «Курска-Карэнскі кірмаш-2004».

Расіяне, іх шматлікія госці ахвотна куплялі льняныя вырабы і сувеніры слуцкай вытворчасці.

Начальнік аддзела маркетынгу фабрыкі «Слуцкія паясы» Ларыса Трывога не хавала свайго шчаслівага хвалявання з той нагоды, што ў Курску падпісаны пратаколы намераў аб пастаўцы прадукцыі ў расійскія рэгіёны. А яшчэ ад курчан паступіла прапанова адкрыць у іх горадзе магазін-прадстаўніцтва. І вельмі дарэчы. Нядаўна слуцкая фабрыка асвоіла выпуск пражы з нітрону наваполацкага «Палімера». Навінку заўважылі ў Чэхіі. Апрабацыя пражы прайшла паспяхова. Чэхам са слуцкай фабрыкі адправілі ўжо дзве тоны сыравіны, а ў наступным, згодна з заключаным дагаворам, будуць адгружаць па 15 тон беларускай пражы штомесячна.




## да ног турыстаў

***Па сёння даследчыкі творчай спадчыны Янкі Купалы не могуць патлумачыць, што меў на ўвазе наш народны пясняр, прамаўляючы гэтыя словы. Але ў кантэксце з прамоўленым ім, можа, і сапраўды трэба меркаваць, што сыходзіць беларуская вёска з новай явы ладу жыцця ў той жа меры, у якой ставіць свае патрабаванні да яе само жыццё? А што цяпер кожны беларускі падворак не хаваецца, не адгароджваецца ад усяго белага свету, не пільнуе самога сябе за наглуха зачыненымі варотамі, рэальнасць неаспрэчная. Як і неаспрэчнае тое, што нашы людзі не замыкаюцца сёння ў саміх сабе. У кожным доме ці хаце вокны насцеж і душы насцеж. Аура такая, што сваёй жыццядайнасцю загоіць любую рану на сэрцы, калі ў некага яно баліць і чалавек рвецца ў беларускую сельскую сям'ю аздаравіцца. Тых жа гараджан. І не замежных, а мясцовых.***

Аналагічных прыкладаў можна прывесці шмат. Як і той факт, што ў канчатковым выніку турызм заклікаць нас аздараўляць, акрамя таго, вядома, што і захапляць, узвышаць, яднаць, арганізоўваць і г.д. І вось з гэтай новай явы і павінна сыходзіць беларуская вёска, прынамсі, на пачатку XXI стагоддзя.

І не дзіўна таму, што не так даўно на Беларусі з'явіўся такі новы для нашай краіны від турызму, які называюць зялёным. Набліжанасць да прыроды і беражлівае стаўленне да навакольнага асяроддзя далі яму яшчэ адну назву – устойлівы, ці мяккі, турызм, які не прыносіць шкоды навакольнаму асяроддзю. Маецца на ўвазе, што турызм, як і ўсё грамадства, павінен развівацца не за кошт будучых пакаленняў, а імкнуцца да гармоніі з прыродай. Зялёны турызм уключае ў сябе, акрамя іншых, экалагічны (зносіны з прыродай, назіранне за яе з'явамі), агратурызм (звязаны з жыццём у фермераў і ўдзелам у іх гаспадарцы) і сельскі. Апошні пачаў актыўна развівацца ў нашай краіне год таму, калі ўзнікла грамадскае аб'яднанне «Агра- і экатурызм». Як выказваюцца ў друку яго супрацоўнікі, яны нават не спадзяваліся, што столькі цікавых здольных вясковых людзей захочуць займацца сельскім турызмам.

На сёння ў банку даных – больш за 250 сядзіб, гатовых прымаць наведвальнікаў. Іх гаспадары – настаўнікі і музейныя работнікі, фермеры і пенсіянеры – звяртаюцца ў аб'яднанне, каб атрымаць кансультацыю, параіцца. І цікава: многія гаварылі, што даўно задумваліся пра нешта накшталт міні-атэля ў сваім доме.

Найперш трэба ведаць, што сельскі турызм – аб'ёмнае паняцце, уключае ўвесь адпачынак за горадам. Важна, што ён не шкодзіць прыродзе. У гэтым у першую чаргу зацікаўлены гаспадары, якія прымаюць гасцей. Грамадскае аб'яднанне «Агра- і экатурызм» вельмі ўважліва ставіцца да пытанняў этыкі турызму. І людзей, гатовых прадаставіць сваё жыллё для адпачынку, тут навучаюць па спецыяльнай праграме.

А зараз мы пазнаёмім вас, паважаныя чытачы, з адказамі старшыні праўлення грамадскага аб'яднання «Агра- і экатурызм» Валерыі Кліцуновай на найбольш хвалюючыя пытанні з боку патэнцыяльных гаспадароў так званых вясковых турсядзіб.

**– Якія патрабаванні да жадаючых прымаць турыстаў?**

– Галоўнае, каб у доме хапала месца, і ён знаходзіўся ў маляўнічым кутку прыроды. Пажаданыя побач лес, рака ці возера, без якіх нашы людзі цяжка ўяўляюць сабе адпачынак. Патрэбны, канешне, фантазія, творчы падыход гаспадароў. Да прыкладу, на тэрыторыі адной з сядзіб, гаспадыня якой займаецца фітадызайнам, з кветак, раслін, дрэў створаны сапраўдны райскі сад. У Мядзельскім раёне ёсць незвычайная прапанова – унікальны чарнічны тур. Што цікава, спачатку гаспадар хацеў запрашаць жыць у сваім доме і дапамагаць знаходзіць ягадныя месцы зусім бясплатна. Потым назначыў умоўную цану.

**– На каго разлічаны адпачынак у вёсцы?**

– На самых розных людзей. Зараз ужо факт, што беларусы сталі менш адпачываць за мяжой. З'явілася шмат перашкод. Цяпер паездка павінна планавацца за некалькі тыдняў, бо мы жывём на мяжы з Еўрасаюзам. А гэта візавыя пытанні. Ды і кошт любых замежных вандровак у сувязі з гэтым вельмі павялічыўся. А людзі ж паранейшаму хочуць і вандраваць, і адпачываць. Ды і наша краіна вартая таго, каб яе пабачыць. Вёска ж – асаблівы, прыцягальны свет, дзе людзі жывуць у гармоніі з прыродай, падпарадкоўваюцца яе біялагічнаму рытму, больш, чым гараджане, памятаюць народныя звычаі.

Міні-атэлі – сутнасць сельскага турызму. Па-першае, гэта абсалютна індывідуальны адпачынак. Людзі прыязджаюць да гаспадароў, у якіх яны практычна адзіныя кліенты. Таму гарантаваны якасны сервіс: нехта хоча застацца ў адзіноце, іншы паедзе і на экскурсію, і на рыбалку, і на прагулку на конях.

Людзі сярэдняга дастатку хочуць, каб іх дзеці правялі лета на траўцы і не дзесьці ў дачным пасёлку, а ў вёсцы. Часта такі кліент не гатовы плаціць шмат. І мы ў стане знайсці для яго адпаведны варыянт. Усе незалежна ад прыбытку маюць права на адпачынак. І ў беларускай вёсцы яго магчыма арганізаваць.

Для людзей забяспечаных ёсць свае варыянты. Гэта можа быць шыкоўны катэдж у маляўнічым месцы (прапаноўваюцца дамы каля Белавежскай пушчы, на Блакітных азёрах). Гаспадары прапануюць не толькі ўсе бытавыя выгоды і стравы беларускай кухні, але і лазню, і рыбалку, і прагулкі на лодках. Да таго ж амаль усе гаспадары рыхтуюць культурную праграму – наведванне мясцовых архітэктурных і гістарычных помнікаў.

**– Ці прыязджаюць іншаземцы адпачываць у беларускую вёску?**

– Здараецца. І, ведаеце, меркаванне, быццам яны занадта патрабавальныя да бытавых умоў, не заўсёды справядлівае. Хутчэй, яны шукаюць уражанняў, а з гэтым у нас якраз усё ў парадку. А яшчэ для большасці прынцыповым з'яўляецца гарантыя бяспекі.

**– Наколькі выгадна прымаць у сябе адпачываючых?**

– Хочацца сказаць, што людзі праяўляюць актыўнасць, таму што зацікаўлены ўкладваць грошы ў свой дом, зямлю. Зараз распрацоўваецца новая рэдакцыя закона «Аб турызме». Там абавязкова будзе артыкул, прысвечаны сельскаму турызму.

Дзяржава павінна быць зацікаўлена, каб людзі мелі дадатковы даход. На вёсцы такім чынам вырашаецца праблема занятасці насельніцтва. Няма патрэбы ехаць у горад, калі можаш зарабіць там, дзе жывеш. І грошы застаюцца ў рэгіёне, працуюць на яго развіццё. Ну а звышзадача сельскага турызму – адраджэнне вёскі.

***Падрыхтаваў Іван ГРЭБЕНЬ***

Галоўнаму рэдактару «Краязнаўчай газеты» У.А. Гілепу

Чэрыкаўскі гісторыка-краязнаўчы музей просіць Вас змясціць артыкул пра горад Чэрыкаў, якому сёлета, 17 ліпеня 2004 года, будзе прысвечана свята ў сувязі з 400-годдзем.

*В.М. ЖУРАЎЛЁВА, дырэктар музея*
*6 ліпеня 2004 года*

***Ад рэдакцыі.*** Перыядычнасць выдання нашай газеты (раз у тыдзень) не дазваляе звышхутка змяшчаць тэрміновыя матэрыялы. Але мы рады, па-першае, павіншаваць чэрыкаўцаў з юбілеем (а для іх увесь год юбілейны), а па-другое, удзячны В.М. Жураўлёвай за матэрыял.

# Гораду Чэрыкаву – 400 гадоў

Мой горад самы любімы, самы ўтульны, самы прыгожы, самы зялёны, самы, самы...

Я вырасла ў ім, тут я вучылася, тут я працую і жыву. Дамы і вулкі майго горада вясной і летам тонуць у зеляніне і кветках. Яны прамыя і ціхія. Паркі старажытныя, цяністыя. Людзі ў горадзе жывуць добрыя і чулыя, працавітыя і вясёлыя. Майму гораду – 400 гадоў! Гэта мой – наш горад Чэрыкаў!

Чэрыкаў стаіць на скрыжаванні аўтамабільных дарог Масква – Брэст і Магілёў – Касцюковічы, на высокім правым беразе ракі Сож. Раён займае 1 тысячу квадратных кіламетраў, тут 96 населеных пунктаў. Да чарнобыльскай катастрофы было 117 населеных пунктаў. Гараджан у нас 8,4 тысячы, вяскоўцаў – 8,6 тысячы чалавек.

На месцы Чэрыкава раней быў замак, ад якога ўцалелі земляныя вал і насып. У канцы XVI стагоддзя Чэрыкаў лічыўся ў ліку каралеўскіх валасцей Магілёўскага павета як сяло. Час заснавання горада Чэрыкава невядомы.

Многія легенды гавораць, што ў XV стагоддзі ў Чэрыкаве была заснавана каралём Казімірам Ягелончыкам Ільінская царква ва ўдзячнасць Богу за ўратаванне яго жонкі.

У 1604 годзе кароль Рэчы Паспалітай Сігізмунд III перавёў Чэрыкаў у разрад гарадоў. У 1641 годзе Чэрыкаў атрымаў магдэбургскае права і герб. Герб горада Чэрыкава ўяўляў сабой блакітнае поле, на пярэднім плане якога сярэбраная сцяна з трыма вежамі. У цэнтральнай вежы арка з рыцарам у даспехах, у руцэ якога кап'ё.

Чэрыкаў – магчымая назва ад слоў «чертало», «чертить», звязаная з прымітыўнымі работамі земляробства: «пахарь». Ёсць і іншыя меркаванні аб назве горада. Напрыклад, што яна звязана з «чырыкамі», лодкамі, для стаянак якіх старажытныя плямёны выбралі правы бераг Сожа.

У перыяд руска-польскай вайны 1654–1667 гадоў у выніку ваенных дзеянняў Чэрыкаў быў спустошаны, але хутка адноўлены.

У 1708 годзе шведскі кароль Карл XII на шляху з Магілёва на Украіну на нейкі час спыняўся ў горадзе Чэрыкаве. 28 верасня 1708 года рускія войскі каля вёскі Лясная (цяпер Слаўгарадскага раёна) разбілі шведскі атрад генерала А. Левенгаўпта. Бой пад Лясной Пётр I назваў «маці Палтаўскай баталіі».

У 1772 годзе пасля I падзелу Рэчы Паспалітай Чэрыкаў адышоў да Расіі і стаў павятовым горадам Магілёўскай губерні. У 1778 годзе зацверджаны план горада, а ў 1781 годзе дадзены герб «Пагоня». Ён быў падобны Магілёўскаму гербу і вызначаўся залатым загалоўкам «ибо сие место всегда будет подсудно Могилёву».

У 1803 годзе наш горад наведаў акадэмік, вучоны, калежскі саветнік Васіль Севяргін, калі падарожнічаў па заходніх правінцыях Расійскай імперыі. З яго запісаў вынікае, што ў той час у Чэрыкаве было тры драўляныя царквы: дзве праваслаўныя і адна каталіцкая. Былі таксама дзве цагляныя пабудовы, у адной з якіх размяшчалася малое народнае вучылішча, дзе навучалася 42 вучні. У горадзе налічвалася 410 драўляных дамоў і 21 крама.

За дзве вярсты ад горада працаваў вадзяны млын на рацэ Удожка. Было 114 майстравых людзей розных спецыяльнасцей. У горадзе праводзілася два кірмашы: першы на Сёмуху, другі – 1 кастрычніка, і працягваліся яны па тыдню. Трапіць у горад можна было праз трое варот, якія не мелі назваў. У горадзе знаходзіўся будынак гарадской думы.

У ліпені 1812 года, пры наступленні французскіх войск Напалеона, Чэрыкаў быў спалены і разрабаваны. У архівах знойдзена ведамасць, згодна з якой насельніцтва Быхаўскага павета, у тым ліку і Чэрыкава, абавязана было паставіць войскам Напалеона «2306 бочак жытняй мукі, 415 бочак круп, 4604 бочкі аўса, па 52316 пудоў сена і саломы, 14526 літраў гарэлкі, 875 пудоў солі, 1725 быкоў».

У 1888 годзе ў самім горадзе было тры навучальныя ўстановы: павятовае вучылішча, прыходскае вучылішча з жаночай зменай і яўрэйскае вучылішча першага разраду.

У горадзе Чэрыкаве ў 1907 годзе адкрываецца прыватная жаночая гімназія. Навучанне ў ёй было платнае.

У пачатку XX стагоддзя ў горадзе была ўжо бальніца, якую абслугоўвалі два ўрачы-тэрапеўты, фельчар і акушэрка. Галоўным урачом бальніцы быў Ілля Аляксандравіч Ахіезер. Ён прапрацаваў у Чэрыкаве каля 30 гадоў. Працавала аптэка, якой загадваў правізар Рыўлін з двума памочнікамі. Лякарства прадавалася ў двух магазінах: Злотнікава і Когана. Коган, акрамя магазіна, меў друкарню з невялікай колькасцю рабочых.

Гадзіннікавай майстэрняй загадваў Цёмкін. Працавала фатаграфія Замскага. Невялікі папяровы магазін Ліфшыца абслугоўваў патрэбы навучэнцаў школ горада, вёскі і павета. Фабрык і заводаў, акрамя гарэлачнага, не было. Саматужная прамысловасць знаходзілася ў пачатку свайго развіцця. Працавалі дзве смалакурні, якія выпрацоўвалі дзёгаць і шкіпінар, два вадзяныя млыны, крупадзёрка. У нязначнай колькасці выраблялася цэгла і скураны тавар.

У 1905–1907 гадах на Чэрыкаўшчыне дзейнічала сацыял-дэмакратычнае падполле, якое ўзначальваў Міхаіл Курака.

У 1905 годзе сярэдні памер сялянскага надзелу на Чэрыкаўшчыне быў вельмі малы – ад 6,8 да 7,9 дзесяцін, 72 працэнты ад усіх сялянскіх двароў. Самымі буйнымі землеўладальнікамі з'яўляліся князь А.А. Абаленскі (8290 дзесяцін – фальваркі Езеры, Горкі, хутар Бакова), памешчык Н.І. Галынскі (4400 дзесяцін – маёнтак Халоблін, фальваркі Міхалін, Сцяпанава), Н.Д. Панятоўскі (2114 дзесяцін – маёнтак Вусце, хутар Багданаўка).

19 студзеня 1918 года Чэрыкаўскі павятовы Савет прыняў пастанову аб пераходзе ўсёй улады ва ўсіх валасцях у рукі бальшавісцкіх Саветаў. У Чэрыкаве дзейнічала група камуністаў на чале з сельскім настаўнікам Мікалаем Дарафеевічам Шчарбітавым, які пасля быў сакратаром Магілёўскага губкама і першым рэдактарам губернскай газеты «Саха і молат».

У 1920–1924 гадах за чатыры вярсты ад Чэрыкава, у вёсцы Лемень у былым доме графа Васілеўскага была адкрыта Леменская доследна-паказальная школа-камуна II ступені. У школе-камуне працавалі педагогі-наватары Мадэст Мікалаевіч Лепяшынскі, Зінаіда Мікалаеўна Лепяшынская, Міхаіл Іванавіч Кернажыцкі і іншыя. У працы гэтай школы-камуны пачаў ажыццяўляцца прынцып адзінства разумовага і фізічнага выхавання з мэтай забеспячэння ўсебаковага і гарманічнага развіцця асобы чалавека.

17 ліпеня 1924 года быў утвораны Чэрыкаўскі раён.

У 1926 годзе ў Чэрыкаве жылі 4442 чалавекі.

Працавала хата-чытальня, бібліятэка, Народны дом, партпрафклуб. У трох школах (2 сямігодкі і яўрэйская) навучалася 80 працэнтаў гарадскіх дзяцей.

Напярэдадні Вялікай Айчыннай вайны ў Чэрыкаве працавалі дрэваапрацоўчая, рамонтная, швейная майстэрні, 2 заводы па выпрацоўцы чырвонай цэглы, 2 заводы па вытворчасці смалы, маслазавод, лесапільня, хлебапякарня, электрастанцыя, вадзяны млын, 2 кузні.

17 ліпеня 1941 года Чэрыкаўскі раён быў акупаваны нямецка-фашысцкімі захопнікамі. Смяротную барацьбу з ворагам вялі 15-ы, 700-ы, 720-ы, 721-ы партызанскія атрады, атрад "Анатоль". Асабліва вызначыліся Героі Савецкага Саюза Яўген Макаравіч Нікалаенка, Уладзімір Раманавіч Яўсеенка, Лаўрэн Васільевіч Дземянкоў, Піліп Іванавіч Кавалёў, Віктар Дзмітрыевіч Кучаравы, Павел Паўлавіч Пурын.

1 кастрычніка 1943 года ў 7 гадзін 30 хвілін над горадам Чэрыкавым быў узняты сцяг вызвалення. У баях за вызваленне горада асабліва вызначыліся 413-я, 324-я, 108-я стралковыя дывізіі 50-й арміі пад камандаваннем Івана Васільевіча Балдзіна. На месцы былых баёў устаноўлены 33 помнікі і абеліскі.

Чэрыкаўшчына – радзіма многіх праслаўленых людзей, якія ўнеслі значны ўклад у развіццё навукі, літаратуры, адукацыі і мастацтва. Сярод іх гісторык, член-карэспандэнт Расійскай Акадэміі навук, доктар філасофіі Міхаіл Сямёнавіч Кутаргін, кандыдат педагагічных навук Рыгор Ціханавіч Сівакоў, заслужаны дзеяч навук Беларусі Міхаіл Іванавіч Жыркевіч, мастак Аляксей Антонавіч Марачкін, кандыдат медыцынскіх навук Вера Архіпаўна Лахманенка, прафесар БГЭУ, доктар эканамічных навук Мікалай Архіпавіч Лахманенка, беларускі спявак (бас) Васіль Кліндухоў, беларускія пісьменнікі Віктар Філімонавіч Карамазаў, літаратуразнаўца, крытык, кандыдат філалагічных навук Алесь Сямёнавіч Яскевіч, паэт, доктар філасофскіх навук, член-карэспандэнт АН БССР (1991) Леанід Фёдаравіч Яўменаў, матэматык, член-карэспандэнт Акадэміі навук Украіны Навум Ільіч Ахіезер, беларускі балетмайстар, заслужаны дзеяч культуры БССР (1968) Іван Арцёмавіч Серыкаў, беларускі вучоны ў галіне акушэрства і гінекалогіі Іван Мацвеевіч Старавойтаў, генерал-палкоўнік, дэпутат Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь Уладзімір Дзям'янавіч Ягораў, заслужаны майстар спорту, трохразовы чэмпіён свету па біятлоне, кавалер ордэна Айчыны III ступені Алег Уладзіміравіч Рыжанкоў.

*Мой Чэрыкаў! Сам-насам*
*з даўніной,*
*у сённяшнім – з усімі*
*і са мной...*

## Міншчына багацее на нашчадкаў

Летась у Мінскай вобласці на кожную тысячу чалавек прыпадала 8,7 нованароджаных, пазалетась жа іх было на адну дзесятую менш. Да таго ж знізіўся на 3,6 працэнта ўзровень агульнай смяротнасці.

Як тут не нагадаць у сувязі з гэтым, што ахова здароўя Міншчыны мае разгалінаваную сетку бальніц (15492 ложкі) і амбулаторна-паліклінічных арганізацый (28207 наведванняў у змену). Завершана будаўніцтва дзіцячай абласной клінічнай бальніцы, яшчэ раней здадзены ў эксплуатацыю лячэбны корпус Капыльскай цэнтральнай раённай бальніцы, Дзмітравіцкая ўрачэбная амбулаторыя ў Бярэзінскім раёне і Слуцкі супрацьтуберкулёзны дыспансер.

## Здаровае паветра бацькаўшчыны

Марыя Сямёнаўна Салавей падчас свайго дзевяноставаськігоддзя ў сваёй вёсцы Языль Старадарожскага раёна сваімі рукамі разбіла кветкавую клумбу. Згадала пры ёй жанчына сваё дзяцінства, калі разам з бацькамі-эмігрантамі, хаця і нарадзілася ў далёкай Амерыцы, прыехала з імі на родную зямлю, бо заакіянскія дактары выявілі ў яе маці цяжкую, невылечную хваробу страўніка і прапанавалі ўдыхнуць адно здаровага паветра бацькаўшчыны. І немач маці як рукой зняло, без года век доўжылася яе зямное жыццё.

Марыя Сямёнаўна ўсё жыццё працавала на зямлі, была паляводам калгаса. Яна нарадзіла і выхавала 11 дзяцей, у яе 27 унукаў і 7 праўнукаў.



*Для школ, ліцэяў, гімназій*

## Радавод: простыя звесткі?

Дзень добры!

Чым больш чытаю старонкі «Краязнаўчай газеты», з кожным новым нумарам пераконваюся ўсё болей: выбар зроблены правільны. Акрамя матэрыялаў гісторыка-асветнага накірунку, хочацца адзначыць такія рубрыкі, як «Малая краязнаўчая энцыклапедыя», «Наша віктарына» і іншыя. Вялікую цікавасць выклікаюць матэрыялы «Школьнага краязнаўства». Вялікі дзякуй за публікацыю «Прыкладная арганізацыя і паслядоўнасць пошукавай і даследчай работы» (№ 20). Безумоўна, краязнаўчая работа ў школе павінна быць комплекснай, сістэматычнай, сістэматызаванай і мэтанакіраванай. З гэтай мэтай асабіста мы ў пачатку мінулага навучальнага года прынялі і пачалі здзяйсняць «Краязнаўчую праграму Ворнаўскай школы-сада – «Наш край». Да яе выканання ў бліжэйшыя гады датычныя настаўнікі гісторыі, геаграфіі, біялогіі, пачатковых класаў і іншыя, вучні і ўсе, каму неабыякавая наша спадчына.

У школах, дзе не зроблена падобная работа, раю найперш абмеркаваць сярод педкалектыву і вучняў вышэйназваны апублікаваны ў вашай газеце матэрыял, вызначыцца з накірункамі работы, размеркаваўшы адказных і выканаўцаў і, зыходзячы з мясцовых умоў і асаблівасцяў, прыняць свой дакумент на педагагічнай нарадзе, зацвердзіўшы загадам дырэктара (пры гэтым можна задзейнічаць сістэму школьнага самакіравання, напрыклад «Раду школы»).

Лічу, што ўсё гэта патрэбна і карысна як вучням, так і настаўнікам (і не толькі ім). Прапаноўваю новыя нашы напрацоўкі.

***Валеры ВАРГАНАЎ,***
***настаўнік гісторыі***
***Ворнаўскай школы-сада***
***Карманскага раёна***

***Ад рэдакцыі.*** Па-першае, шаноўны Валеры Валер'евіч, дзякуем шчыра за вашы зацікаўленасць, цеснае супрацоўніцтва з «Краязнаўчай газетай».

Ваш матэрыял у № 23 за гэты год з метадычнымі парадамі вучням, што і як запісваць з успамінаў пра Вялікую Айчынную вайну, прыцягнуў увагу нашых чытачоў – асабліва настаўнікаў і бібліятэкараў. Наконт гэтага мы асабіста пераканаліся зусім нядаўна, калі наведалі Карэліцкі і Навагрудскі раёны. Там таксама праводзіцца пэўная работа ў гэтым накірунку, але некаторыя вашы прапановы, Валеры Валер'евіч, паспрыяюць унесці ў іх працу пэўныя дапаўненні.

Іншымі сваімі напрацоўкамі, якія цяпер прапаноўваеце нам для друку вы, як і самі напісалі, адгукаецеся на матэрыял з Клімаўшчыны «Прыкладная арганізацыя і паслядоўнасць пошукавай і даследчай работы», апублікаваны ў «КГ» у № 20. Тыя мясціны, дзе вы так ці гэтак паўтараеце апублікаванае, мы, зразумела, апускаем. Навошта паўтараць тое, пра што думаюць, што робяць разумныя, свядомыя людзі прыкладна гэтак і ў іншых мясцінах. А вось да раздзела «Мой радавод» варта больш уважліва прыгледзецца і, сапраўды, звярнуць большую ўвагу на такое, здаецца, зусім простае:

1. Хто я?
2. Мая сям'я.
3. Мой род.
4. Мае суседзі.
5. Мой дом.
6. Мая вуліца.
7. Мая школа.
8. Мая вёска.

Далейшых Вам, Валеры Валер'евіч, і Вашым аднадумцам руплівасці, поспехаў і зямной чалавечай годнасці!





***Як вядома, 4–5 верасня 2003 года у в. Залессе (былым маёнтку М. К. Агінскага) Смаргонскага раёна адбылася Міжнародная канферэнцыя «Гістарычныя сядзібы Беларусі: стан і перспектывы», у якой бралі ўдзел вучоныя, дзеячы культуры і мастацтва з Беларусі, Расіі, Украіны, Польшчы і Літвы. У леташнім вераснёўскім нумары «Краязнаўчай газеты» пра тую канферэнцыю была падрабязная справаздача члена рэдкалегіі газеты, вядомага навукоўца і літаратара Адама Мальдзіса.***

***Летась, напрыканцы года, асобным выданнем выйшла брашура, у якой змешчаны публікацыі ўсіх, хто выступіў тады на канферэнцыі і выказаў шэраг цікавых заўваг і прапаноў, а таксама апублікаваны прынятыя дакументы.***

# Сядзібна-паркавае дойлідства Беларусі:

## гістарычны аспект і сучасны стан

Старадаўнія сядзібы, складаныя комплексы сузалежных архітэктурных і прыродных элементаў, займаюць асаблівае месца ў культурна-гістарычнай спадчыне Беларусі. Яны фарміраваліся ў адпаведнасці са стылявымі патрабаваннямі гістарычных эпох, у рэчышчы развіцця агульнаеўрапейскай культуры з улікам гістарычных, эканамічных, прыродных умоў і мясцовых традыцый. Немалое значэнне мелі таксама лад жыцця і эстэтычныя запатрабаванні іх уладальнікаў. Сядзібы эвалюцыянавалі ад старажытных умацаваных двароў, вядомых, паводле археалагічных раскопак, з XI ст., да добра адбудаваных рэнесансных комплексаў і далей да высокамастацкіх ансамбляў барока. Надзвычай багатай была эпоха класіцызму і асабліва рамантызму, росквіт якога прыпадае ў Беларусі на першую палову XIX ст. Разнастайнасцю архітэктурных стыляў, падкрэсленай утылітарнасцю прыкладна з сярэдзіны XIX ст. вызначаюцца сядзібы, пабудаваныя ў стылях эклектыкі і мадэрна.

Сядзібы фарміраваліся як радавыя гнёзды многімі пакаленнямі. Нязменна, пачынаючы з канца XIV ст., Яленскія валодалі Дунайчыцамі, з 1500 г. Храптовічы – Шчорсамі; каля чатырох стагоддзяў належалі Янішэўскім Васількі, Радзівілам – Нясвіж, Тышкевічам – Лагойск; 414 гадоў Ордам – Біжарэвічы. У традыцыях роду, у пераемнасці пакаленняў нараджалася асаблівая святасць адносін да іх, фарміраваўся своеасаблівы матэрыяльны і духоўны сядзібны свет.



Сядзіба Храптовічаў на гравюры XIX ст.

Зразумець доўгі шлях станаўлення і развіцця ў Беларусі сядзібнага дойлідства дапамагаюць інвентары, «падымныя» рэестры гарадоў і мястэчак. Матэрыялы гэтых крыніц за стагоддзе (1550–1650 гг.) дазволілі вызначыць характэрныя рысы і асаблівасці развіцця сядзібнага дойлідства ад двара да рэнесанснага ансамбля.

Асноўная тэндэнцыя развіцця планіровачнай структуры сядзібы заключалася ў вылучэнні і адасабленні яе парадная часткі – двара з сядзібным домам і службова-гаспадарчымі пабудовамі і двара гаспадарчага. Пазней гаспадарчы двор атрымаў функцыянальна-планіровачную самастойнасць і пачаў называцца дворыкам. Прыкладна ў другой палове XVI ст. «дворык» у вялікіх маёнтках адасобіўся і ператварыўся ў самастойны гаспадарча-вытворчы комплекс – фальварак. Пашырэнне фальваркаў садзейнічала адасабленню ў сядзібах параднага двара, які паступова страчваў не толькі гаспадарчыя пабудовы, але нават агароды і пладовыя сады. Абавязковымі элементамі двара былі брама і агароджа. Паступова агароджа набывала свецкія рысы (верхні ярус меў выгляд ажурнай балюстрады), а брамы станавіліся манументальнымі збудаваннямі (у два-тры ярусы з вежамі і памяшканнямі рознага прызначэння). Брама была выразным традыцыйным збудаваннем беларускай рэнесанснай сядзібы.

Працэс трансфармацыі сядзіб, пераход ад утылітарнасці да свецкасці доўжыўся амаль стагоддзе. Тэндэнцыя адасаблення параднага двара дакладна праявілася ў новых сядзібах пачатку XVII ст. Да нашых дзён дайшоў адзіны з іх – парадны двор і каменны дом з вуглавымі вежамі ў Гайцюнішках, пабудаваны П. Нонхартам і В. Дадэнам. З адасабленнем параднага двара сядзібы набывалі сіметрычна-восевую кампазіцыю. Сіметрычна кампазіцыйнаму цэнтру ўзводзіліся службовыя будынкі, складаўся рэнесансны тып сядзібна-паркавага ансамбля.

У рэнесансных сядзібах нараджаўся барочны тып двара, які развіваўся на грунце агульнай еўрапейскай культуры XVII ст. (Чарнаўчыцы, Опаль, Дубой, Карэлічы, Іўе). Асноўнымі рысамі барочнага ансамбля з'яўляліся цэльнасць кампазіцыі, строгі парадак, сіметрыя, ураўнаважанасць і паслядоўнасць. Уся кампазіцыя трымалася на галоўнай падоўжанай восі, якая дапаўнялася другараднымі восямі. Акрамя таго, асабліва ў час позняга барока, быў закладзены шэраг сядзіб, якія планіровачна адрозніваліся ад тыповых барочных, з'яўляліся мясцовымі варыянтамі гэтага стылю (Дудзічы, Нач Свенцянская, Норыца, Лявонпаль). Стыль барока характарызаваўся актыўнымі адносінамі да прыроды, пераўтварэннем прыроднага ландшафту (планіроўка тэрыторыі, пракладка каналаў, стварэнне вадаёмаў строга геаметрычнай формы, будаўніцтва каскадаў, фантанаў, вадападаў). У многіх сядзібах (Аннапаль, Бачэйкава, Альнэва, Руткевічы, Бярэзінскае) праводзілася тэрасіраванне роўных тэрыторый. Вялікая ўвага надавалася тапіярнай апрацоўцы дрэў, кустоў, шпалерам, роўным зялёным сценам баскетаў.

Рэгулярнасць барочнага саду разумелася як адлюстраванне натуральнай (прыроднай) рэгулярнасці, падпарадкаванасць яе законам ньютонаўскай механікі і прынцыпам дэкартаўскай разумовасці. Мяняецца іх ідэалагічны змест. На задні план адышоў рэнесансны «прынцып меры», з'явіўся іранічны элемент, жартаўлівасць. Дрэвы, кусты не проста падстрыгаліся, а фарміраваліся ў выглядзе розных кур'ёзаў-звяроў, геаметрычных форм. У паркі прыйшлі тэатры, з імі і ўвесяленні, элементы відовішча. Паркі страчвалі вучэбны і «вучоны» характар.

Ансамблі барока сімвалізавалі трыумф свецкай культуры, магутнасць яе носьбітаў (Радзівілаў, Сапегаў, Чартарыйскіх, Агінскіх, Солтанаў і інш.), з'яўляліся цэнтрамі грамадска-палітычнага і культурнага жыцця (Воўчын, Слонім, Дабраўляны, Сёмкаў, Альба, Іўе, Дзятлава, Лявонпаль, Станіслававa). Высокія ідэі стылю рэалізоўваліся на нашай зямлі вядомымі замежнымі (А. Лоцы, М. Педэці, М. Пепельман, Дж. Сака, А. Гену) і мясцовымі (Т. Жабровскі, К. Ждановіч, Л. Лутніцкі і інш.) дойлідамі.

У 80-я гады XVIII ст. пачалася новая эпоха ў сядзібным дойлідстве Беларусі. Першыя сядзібныя дамы ў стылі класіцызму былі пабудаваны ў сядзібах Мараўскіх у Завушшы, Радзівілаў у Радзівілімонтах, Аскеркаў у Шацку. Сапегамі па праекту Я. Бекера вядзецца перабудова ў новым стылі Ружанскага ансамбля. У 1777 г. графам П. Румянцавым закладваецца ў Гомелі палацавы ансамбль, які з'яўляецца адным з лепшых прыкладаў класіцыстычнай паладыянскай пабудовы з кампактным планам і купальным завяршэннем не толькі ў Беларусі, але і ў Расіі і Польшчы. Гомельскі ансамбль з'явіўся своеасаблівым маніфестам новай архітэктуры, новага еўрапейскага цывілізаванага густу. Дух эпохі хутка распаўсюджваўся на беларускіх землях.

***Анатоль ФЕДАРУК,***
***доктар біялагічных навук, прафесар БДПУ імя М. Танка***

***(Заканчэнне будзе)***



Фота Міхася КЕНЬКІ

*Кропка на карце*

# НАВОЗЫ: тут жывуць нашчадкі Каліноўскага

***Як вядома, паўстанне 1863–1864 гадоў, якое ахапіла заходнія ўскраіны тагачаснай Расійскай імперыі – Беларусь, Літву і Польшчу, было жорстка задушана царскімі войскамі. Тады ж тысячы ўдзельнікаў тых падзей, іх родзічы былі вымушаны ў прымусовым парадку, а хто і добраахвотна, каб пазбегнуць лішніх праблем у жыцці, пакінуць свае родныя мясціны. Хто трапіў у Сібір, каго лёс закінуў у Цэнтральную Расію. Але знайшліся і такія, каму не хацелася надта далёка ад'язджаць ад бацькоўскіх магіл. Яны шукалі новыя паселішчы ва Усходняй Беларусі. Адным з такіх перасяленцаў быў і дзядзька аднаго з кіраўнікоў паўстання Кастуся Каліноўскага (1838–1863 гг.) Імануіл Аўраамавіч Каліноўскі. Ён прыгледзеў сабе зямлю на тэрыторыі цяперашняга Шчадрынскага сельсавета Жлобінскага раёна Гомельскай вобласці. Так узнікла вёска Навозы. Назва ж пайшла ад таго, што ў час, калі перасяленцы будавалі сабе жыллё, уся іх маёмасць знаходзілася на вазах. І калі хто пра што пытаўся, адказ, зразумела, быў такі: «На вазах».***

Вядома, сказанае вышэй належыць да разраду паданняў, якія перадаюцца з пакалення ў пакаленне. А распавядала мне пра гэта не хто-небудзь, а сама сваячка Кастуся Каліноўскага, жыхарка Навозаў Уладзіслава Францаўна Язвінская. Яе бацька Франц Імануілавіч Каліноўскі быў сынам згаданага ўжо намі Імануіла Аўраамавіча Каліноўскага.

– У нашай сям'і заўсёды ганарыліся тым, што мы паходзілі са знакамітага роду Каліноўскіх, – расказвае Уладзіслава Францаўна. – Праўда, не заўсёды гэта даводзілася гаварыць услых. Да постаці Кастуся Каліноўскага на Беларусі ўвесь час ставіліся неадназначна: то ўзносілі да ўзроўню нацыянальнага героя, то праклінaлі як «нацыяналіста». Але мы заўсёды ведалі, што Кастусь Каліноўскі жыў і аддаў сваё жыццё за лепшую долю свайго народа. Магу яшчэ сказаць і тое, што наш знакаміты родзіч заўсёды глядзеў у заўтрашні дзень. Ужо тады, у 1860-я гады, калі многія бачылі шчасце толькі ва ўласным кавалачку зямлі, Кастусь Каліноўскі сцвярджаў, што ў першую чаргу трэба дбаць пра адукацыю. Толькі ў адукаваных дзяцей будзе добрая будучыня, лепшае жыццё.

Нашчадкі Кастуся Каліноўскага заўсёды памяталі гэтыя словы. Бацька Уладзіславы Францаўны Франц Імануілавіч, які пражыў 89 гадоў, цікавіўся беларускай літаратурай, любіў паўтараць, што ён аднагодак вялікага нацыянальнага паэта Янкі Купалы (1882–1942). Пабачыў Франц Імануілавіч і свет, з 1914 па 1917 год ён працаваў у Злучаных Штатах Амерыкі. Імкнуўся ўсяляк даць адукацыю і сваім дзецям, як гаворыцца, вывесці іх у людзі.

Вось і мая субяседніца Уладзіслава Францаўна стала настаўніцай, аддала педагагічнай справе звыш сарака гадоў. Першы ж яе ўрок адбыўся 1 верасня 1944 года, калі на роднай Жлобіншчыне яшчэ не развеяўся дым ад учарашніх баёў з нямецка-фашысцкімі акупантамі.

Сёння Уладзіслава Францаўна даўно на пенсіі. У пачатку 2004 года яна адзначыла сваё 80-годдзе (гл. Орел Людмила. С юбилеем, бабушка Владя! // Новы дзень (Жлобін). № 22. 2004). Але шкадуе, што не давялося больш папрацаваць у школе. Справа ў тым, што ў самой вёсцы, а таксама ў навакольных, ужо няма каго вучыць. Засталіся адны пенсіянеры. А быў час, калі Навозы былі адносна буйным паселішчам. Як сведчаць дакументы, у 1897 годзе ў тагачасным засценку Навозы Сцяпскай воласці налічвалася звыш 30 двароў, дзе пражывалі 78 мужчын і 98 жанчын (гл. Расійскі дзяржаўны гістарычны архіў, ф. 1290, воп. 11, спр. 1294, арк. 404). А ў 1909 годзе – ужо 40 двароў і 230 жыхароў (гл. Ярмолович В.С. Список населенных мест Минской губернии. Мн., 1909. С. 130).

Не абышлі вёску рэпрэсіі 1930-х гадоў (мясцовых жыхароў лічылі палякамі, хаця самі яны лічаць сябе беларусамі, толькі католікамі). На жаль, спіс рэпрэсаваных яшчэ ўдакладняецца.

Пакуль дакументальна зафіксаваны толькі адзін чалавек – Казімір Рафаілавіч Шчыгельскі (гл. Память. Жлобін. Жлобінскі раён. Мн., 2000. С. 108). Многія проста не вярнуліся на радзіму. Значна паменшыла колькасць мясцовых жыхароў Вялікая Айчынная вайна. Але смяротны ўдар па вёсцы нанесла пасляваенная дзяржаўная палітыка так званых неперспектыўных вёсак. Як вынік – сёння ў Навозах засталося ўсяго каля 10 жылых дамоў, а жыхароў – 22.

Вёска Навозы вызначаецца яшчэ і тым, што яна з'яўляецца адным з нямногіх на праваслаўнай Жлобіншчыне астраўком каталіцызму. Часты госць тут настаяцель Жлобінскага прыходу Святога Казіміра ксёндз Леанард Акалатовіч (гл. Шуканаў Мікалай. У Навозах памятаюць Кастуся Каліноўскага. // Новы дзень (Жлобін). № 99. 1997).

***Мікалай ШУКАНАЎ,***
***супрацоўнік Жлобінскай раённай газеты «Новы дзень», краязнаўца***

# Беларускі архіў старажытных актаў

## Да 180-годдзя выдання «Белорусского архива древних грамот»

*«...І наша Беларусь не зусім знікне з твару Зямлі, але няхай ведае ўвесь свет, што былі часы, калі яна была больш слаўнай і добрапрыстойнай».*

*І.І. Грыгаровіч*

У 2004 годзе спаўняецца 180 гадоў унікальнаму выданню, якое з'яўляецца першым апублікаваным зборнікам старажытных дакументаў па гісторыі Беларусі і Магілёўшчыны. «Белорусский архив древних грамот» убачыў свет у 1824 годзе.

«Прыміце замест чырвонага яйка першы надрукаваны ліст Архіва Беларускіх грамат...» Так пісаў у сваім велікодным прывітанні ў Гомель протаіерэю І.І. Грыгаровічу мецэнат і настаўнік граф Мікалай Пятровіч Румянцаў.

Стварэнню творчага саюза графа М.П. Румянцава і І.І. Грыгаровіча пасадзейнічаў шчаслівы выпадак у 1814 годзе. Тады малады выкладчык грэчаскай і лацінскай мовы Магілёўскага павятовага духоўнага вучылішча Іван Грыгаровіч быў прадстаўлены графу бацькам, які служыў протаіерэем у Гомельскай епархіі. Дзяржаўны канцлер М.П. Румянцаў пасля адстаўкі часта бываў у сваім Гомельскім маёнтку. Пры першых жа зносінах з юнаком граф угледзеў у ім незвычайны розум і жывую цікавасць да гісторыі, літаратуры, філасофіі. Ён вырашыў прыняць удзел у лёсе маладога чалавека. Дапамог яму паступіць у Пецярбугскую духоўную акадэмію. А затым штогод пасылаў на рахунак Акадэміі 350 рублёў асігнацыямі на ўтрыманне студэнта І.І. Грыгаровіча.

Яшчэ ў час вучобы ў Акадэміі Іван Іванавіч шмат працаваў у бібліятэках, за адным разам выконваў даручэнні графа па дастаўцы яму неабходных звестак, пачэрпнутых са старажытных рукапісаў і дакументаў.

У пецярбургскім доме Пятра Мікалаевіча Румянцава малады беларускі даследчык сустракаўся з вучонымі-гісторыкамі і пісьменнікамі: П.І. Кепенам, адным з заснавальнікаў Вольнага таварыства аматараў расійскай славеснасці, выдаўцом часопіса «Бібліяграфічныя лісты», К.Ф. Калайдовічам, даследчыкам творчасці Кірылы Тураўскага, А.Х. Вастокавым, выдаўцом Ізборніка Святаслава 1073 года, археографам П.М. Строевым і інш.

У 1819 годзе, калі набліжаўся час заканчэння Акадэміі, І.І. Грыгаровіч аказаўся перад выбарам: заставацца яму ў Пецярбургу ці вяртацца ў Гомель да састарэлых бацькоў і заняць бацькоўскае месца службы? Іван Іванавіч выбірае дзейнасць правінцыяльнага свяшчэнніка, а не сталічнага антыквара: «...першае прыносіць даход, які б малы ён ні быў, а другое – выдаткі, так сказаць, на капрызы розуму. Ці нашаму брату ганяцца за гэтымі капрызамі, калі мала стане і на капрызы страўніка? Вялікае – вялікім, малое – малым, і гэта апошняе – наша». (З пісьма ў адказ І.І. Грыгаровіча М.П. Румянцаву).

Час паказаў, што гэта рашэнне Івана Іванавіча было правільным. Па волі лёсу ён наблізіўся да нашых мясцовых старажытнасцяў, якія ўжо даўно чакалі свайго даследчыка. Але першая праца І.І. Грыгаровіча – яго дысертацыя, напісаная па патрабаванні графа Румянцава, была прысвечана гісторыі Наўгародскай зямлі. У 1821 годзе яна была надрукавана на графскія сродкі ў Маскве ў друкарні С. Селіваноўскага накладам 600 экземпляраў пад назвай «Гістарычны і храналагічны вопыт пра Пасаднікаў Наўгародскіх. З рускіх летапісаў».

З 1820 па 1829 год протаіерэй гомельскай царквы, рэктар павятовага і прыходскага вучылішчаў, цэнзар пропаведзяў І.І. Грыгаровіч займаецца служэннем Богу і людзям у Гомельскай епархіі і вывучэннем гісторыі роднага краю, знаёміцца з мясцовымі



архівамі і бібліятэкамі. Ім асабіста і памочнікамі, прыцягнутымі М.П. Румянцавым, было знойдзена мноства старажытных дзяржаўных і прыватных дакументаў, якія адносяцца да часоў Вялікага княства Літоўскага і Рэчы Паспалітай.

У Магілёве ў архірэйскім і магістрацкім архівах, у бібліятэцы духоўнай семінарыі, у бібліятэках Мсціслаўскіх і Аршанскіх манастыроў і ў іншых сховішчах Грыгаровіч скапіраваў і апісаў некалькі дзесяткаў актаў XV – XVIII стагоддзяў. Гэтыя каштоўныя дакументальныя матэрыялы сталі ядром будучага выдання «Белорусский архив древних актов». Пры адборы дакументаў для друку М.П. Румянцаў прасіў звярнуць увагу на тое, каб пазбягаць «...усялякай злосці і той нянавісці, якую часта паказвалі нашы духоўныя асобы да каталіцкай рэлігіі», нягледзячы на той «дух папізму» і той уціск ад яго, які давялося вынесці праваслаўным у Беларусі. Па гэтай прычыне, магчыма, некаторыя каштоўныя для гісторыі дакументы былі адкладзены ўбок.

Дакументальны зборнік павінен быў складацца з трох частак. У 1824 годзе былі падрыхтаваны да друку 123 рукапісы актаў XV – XVIII стагоддзяў, якія адносяцца да гісторыі Вялікага княства Літоўскага, Рэчы Паспалітай і Расіі. Яны павінны былі скласці першую і другую кнігі, а для трэцяй кнігі яшчэ назапашвалася неабходная колькасць дакументаў.

Так ужо атрымалася, што пабачыла свет толькі першая частка (першая кніга), надрукаваная ў Маскве, а таксама ў друкарні С. Селіваноўскага ў красавіку – маі 1824 года. У прадмове І.І. Грыгаровіч адзначаў, што «пры першапачатковым аглядзе некаторых беларускіх архіваў знойдзена 57 грамат, больш ці менш старажытных, якія ў гэтым выданні змяшчаюцца.

Таму яно і названа Беларускім архівам. Праўда, не ўсе гэтыя граматы адносяцца прама да гісторыі Дзяржавы Расійскай, і таму не ўсе роўна важныя, не ўсе роўна могуць быць цікавымі, але яны служаць крыніцай для гісторыі Беларусі, Царкоўнай і Грамадзянскай, – і ў гэтых адносінах утрымліваюць у сабе шмат важнага і цікавага».

У кнізе дакументы размешчаны ў храналагічным парадку з XV па XVIII стагоддзе. Самы ранні дакумент уяўляе сабой Даравальную Грамату караля Казіміра магілёўскім баярам Ільінічам на Сяменчынскую зямлю (другая палова XV стагоддзя). У каментарыях да пацвярджальнай Граматы каралевы Алены Іаанаўны з прычыны звальнення баяраў Ільінічаў ад павіннасцей... (1506 г.) І. Грыгаровіч дае тлумачэнне для цікаўных пра Сяменчынскую зямлю. «Сяменчынская, ці Макрыцкая, зямля знаходзіцца цяпер (у 1824 г.) у самім Магілёве, на рынку; яна ўступлена гораду Ганнаю Багданаўнаю Парцэўскаю ў 1626 г.».

Асаблівую цікавасць для магіляўчан уяўляе Грамата Стэфана Баторыя «Аб падараванні гораду Магілёву магдэбургскага права і герба з з вызначэннем жыхарам яго розных пераваг; аб устанаўленні ў ім двух гадавых кірмашоў і штотыднёвых таргаў; аб дазволе пабудаваць ратушу і вучылішча, і аб правах гандлю» (у кнізе 1578 г.).

Укладальнік змясціў паралельна з лацінскім тэкстам арыгінала пераклад на рускую мову, зроблены ў XVII стагоддзі. У сваіх каментарыях да дакумента І.І. Грыгаровіч піша пра тое, што ў арыгінале Грамата ўяўляла сабой вялікі пергаментны аркуш. «Імя Гасподняе і ўсе загаловачныя ці прапісныя пасля кропак літары, таксама герб, падараваны гораду Магілёву, наведзены золатам». Гравіраваная выява герба змешчана пад тэкстам граматы. Гэты каштоўны дакумент быў знойдзены Іванам Іванавічам ў магістрацкім архіве Магілёва.

У архіве Магілёўскай духоўнай кансісторыі І. Грыгаровіч выявіў арыгінал Граматы Сігізмунда «Аб адабранні Магілёўскага Спаскага манастыра ад Полацкага епіскапа Феафана і аб даручэнні яго ў ведама грамадзян з усімі ўгоддзямі, што належалі яму» (1588 г.). Грамата была падпісана каралём Вялікага княства Літоўскага Сігізмундам і падканцлерам Львом Сапегам. Першыя факсіміле гэтых подпісаў змешчаны ў кнізе.

Каментарыі даюць магчымасць уявіць знешні выгляд Граматы і яе друку. Да пергаментнага аркуша падвешана на стракатым шнурку «ў каўчэжцы белага воску дзяржаўная пячаць, выціснутая ўнутры яго на чырвоным воску; на ёй відаць са шчытом верхнік і зверху яго карона, а навокал у двух радках каралеўскі тытул».

У кнізе ёсць яшчэ некалькі грамат, якія адлюстроўваюць старонкі гісторыі рэлігійнага жыцця ў беларускіх землях. Спіс старажытнага пісьма аднаго з важнейшых праваслаўных дакументаў быў знойдзены ў Магілёўскім архірэйскім архіве. Гэта грамата Сігізмунда III магілёўскім грамадзянам (1602 г.) «Аб устанаўленні ў Магілёве пры храме Богаяўлення Гасподняга брацтва, члены якога абавязаны былі ўносіць у касу яго адвольныя ўклады на ўтрыманне духавенства, на дапамогу бедным і хворым, на пахаванне ўбогіх і на ўтрыманне праваслаўнай школы і настаўнікаў». Гэтым дакументам афіцыйна зацверджана Магілёўскае праваслаўнае брацтва. Грамата з уласнаручным подпісам патрыярха Нікана захоўвалася ў архіве Магілёўскай кансісторыі. Яна прызначалася «Полацкага Богаяўленскага манастыра ігумену Ігнацію з браціяй аб непасрэднай залежнасці яго ад Патрыярха Маскоўскага, без усялякага ўплыву на кіраванне гэтым манастыром епіскапа Полацкага (1658 г.). І. Грыгаровіч, кіруючыся інтарэсам будучых даследчыкаў, таксама змяшчае ў кнізе факсіміле подпісы патрыярха-рэфарматара.

Апошні 57-ы дакумент «Белорусского архива древних грамот» датуецца 1768 годам. Гэта грамата, звязаная з імем легендарнага Георгія Каніскага. Кароль Станіслаў Аўгуст ў адказ на прашэнне епіскапа беларускага Георгія Каніскага заснаваць у прадмесці Магілёва пры царкве Святога Міколы для праваслаўнага юнацтва грэка-лацінскае вучылішча і друкарню дае свой каралеўскі дазвол, але «з такой, між тым, перасцярогай, каб не друкаваць тут кніг ерэтычных, з'едлівымі думкамі вострых жартаў напоўненых, і старанна ўхіляцца ад спрэчных прадметаў, што нараджаюць узаемную прыкрасць».

Дакумент надрукаваны на мове арыгінала (польскай) з паралельным перакладам на рускую мову. Іван Іванавіч Грыгаровіч, пэўна, з асаблівым трапятаннем паставіўся да гэтай знаходкі ў архірэйскім архіве. Бо свяціцель Георгій усім сваім жыццём і дзейнасцю садзейнічаў чысціні і ўмацаванню праваслаўнай веры на зямлі беларускай. І гэты дакумент стаў таму яшчэ адным пацвярджэннем. І.І. Грыгаровіч быў шчаслівы яшчэ тым, што даводзіўся родзічам гэтаму цудоўнаму падзвіжніку праваслаўнай царквы. Яго маці была пляменніцай Георгія Каніскага.

Праз 10 гадоў Іван Іванавіч выдае творы архіепіскапа беларускага Георгія. Гэта падзея будзе адзначана А.С. Пушкіным у 1-й кнізе «Современника» за 1836 год: «...протаіерэй Грыгаровіч выдаў збор твораў Георгія Каніскага, які дапоўніў сваю кнігу цікавым і цудоўна выдадзеным жыццяпісам Георгія Каніскага... Грыгаровіч, выдаўшы творы вялікага архіепіскапа Беларусі, аказаў грамадству важную паслугу».

Важную паслугу, кажучы словамі А.С. Пушкіна, І.І. Грыгаровіч аказаў беларускай гістарычнай навуцы яшчэ тым, што адкрыў шлях да адшукання старажытных дакументальных крыніц і пачаў работу па выданні «Белорусского архива древних грамот». Справядлівыя яго словы пра тое, што толькі адно «пры судакрананні са старажытнымі арыгінальнымі хартыямі... змаўкаюць усялякага роду чуткі; і пры святле ісціны знікае змрок здагадак адвольных; падзеі азараюцца промнямі яе, і бесстаронняя гісторыя кладзе пячаць на сваё тварэнне».

На жаль, не пабачылі свет другая і трэцяя часткі гэтай крыніцазнаўчай працы. У другой частцы меркавалася змясціць радаслоўную табліцу князёў Мсціслаўскіх. Акрамя гэтага, прафесар І. Лабойка і граф М. Румянцаў прапаноўвалі ў адной з гэтых частак надрукаваць слоўнік «цяжказразумелых беларускіх слоў»: «Я не схаваю ад Вас ... што надзвычай жадаю, каб Вы да беларускіх грамат далучылі слоўнік беларускіх слоў, для нас незразумелых. І пастараліся б іх растлумачыць. Няма сумнення, што гэты слоўнік надаў бы большай важкасці таму выданню, над якім Вы зараз працуеце, і паставілі б Ваша імя ў большую павагу сярод тых, хто сапраўднай асветай займаецца».

Другая частка была цалкам гатова да выдання ў 1826 годзе, але смерць Мікалая Пятровіча абарвала гэту добрую справу. І.І. Грыгаровіч пазбавіўся падтрымкі М.П. Румянцава і не змог працягваць друкаванне дадзенага выдання. Такім чынам, 1-я і адзіная частка «Белорусского архива древних грамот», якая ўбачыла свет у 1824 годзе, ёсць сапраўды унікальная з'ява. Гэта быў першы вопыт звароту да дакументальных вытокаў па беларускай сярэдневяковай гісторыі.

Пачатак быў пакладзены. Працяг жа наступіў больш чым праз 20 гадоў, калі Іван Іванавіч стаў рэдактарам Пецярбургскай археаграфічнай камісіі. Вынікам яго працы на гэтай ніве з'явіліся чатыры тамы «Актов Западной России» і пачатак падрыхтоўкі «Словаря белорусских наречий». Але і гэту працу не закончыў беларускі архіварыус. Іван Іванавіч Грыгаровіч памёр у лістападзе 1852 года.

З таго часу мінула больш за паўтара стагоддзя, змянілася некалькі пакаленняў, але кожнае з іх з цікавасцю заглядвала ў мінулае і звярталася да той спадчыны, якую змаглі сабраць і захаваць тыя, каму суджана было быць першымі.

Сёння, калі трымаеш у руках ужо дастаткова пацёрты экземпляр «Белорусского архива древних грамот» 1824 года, які захоўваецца ў кніжным зборы


БѢЛОРУССКІЙ

АРХИВЪ.

ЧАСТЬ I.

МОСКВА.

Магілёўскага краязнаўчага музея, міжволі думаеш, што калі б ні падзвіжніцтва такіх людзей, як Іван Іванавіч Грыгаровіч, Мікалай Пятровіч Румянцаў, колькі б яшчэ старонак нашай багатай гісторыі было страчана беззваротна, згубілася ў бездані часу.

***Людміла ТОМЧЫК,***
***старшы навуковы супрацоўнік Магілёўскага абласнога краязнаўчага музея***

## Ад дзядзькі Антося




Раней, калі добра ўсё радзіла і быў маладзейшы, ахвотны да розных агародных спраў, я сам здабываў рознае насенне.

**Памідоры.** Трэба браць першыя (першыя!) паспелыя (не зусім пераспелыя) плады тых гатункаў, што вам вельмі падабаюцца. Тут маем дзве патрэбныя рэчы – сам памідор можна спажыць для ежы, а зярняткі з яго разам з сокам выбраць і апусціць у невялікую пасудзінку. Пакінуць яе ў спакоі на дзён пяць (не рабіце памылкі, у пасудзінку не налівайце вады). Калі з'явіцца плесня (гэта не бяда, натуральная рэч), расцісніце тое, што ў пасудзінцы, пальцамі, заліце вадою і, як толькі зерне апусціцца на дно, астатняе ўсё выдаліце, зерне добра абмыйце ў сітачку. Пасля раскладзіце іх на паперы ці на анучцы, няхай яны добра абсохнуць (на некалькі дзён). Пасля – і зноў жа ў паперыну альбо анучку і пакладзіце ў сухое месца «спаць». У плёначныя мяшэчкі насенне класці не варта: там будзе захоўвацца вільгаць, яно можа адсырэць, а то і стухнуць.

**Агуркі.** Таксама трэба добра ўцэліць: плод павінен быць добра паспелы, але яшчэ не гніляк: зерне ў ім можа прарасці. Такое яно непрыдатнае для насення. Далей усё рабіць так, як і з памідорамі (напамінаю: у выбраную сумесь не дадаваць вады, ёю толькі пасля абмываць кароткі час). Насенне агуркоў варта высаджваць толькі праз год.

Самім можна нарыхтоўваць насенне морквы, радыскі, капусты, буракоў, толькі, зразумела, трэба загадзя, зусім ранняй вясной высаджваць у добра падрыхтаваную глебу семяннікі. А вось насенне ўкропу, салаты можна атрымаць з сёлетніх пасадак, пятрушкі – лепш з леташніх. Увосень, калі ўтворацца зярняткі ў стручках альбо суквеццях, трэба вырваць расліну з коранем, пакласці яе дзе-небудзь на гарышчы на высыханне і даспяванне, загадзя падаслаўшы пад яе газеціну (каб на ёй заставалася сухое насенне).

### Прышчэпы

Асабіста я іх люблю вясеннія (спосабы ў «Краязнаўчай газеце» сёлета ўвесну раіў мой сябра з вёскі Дзераўная Стаўбцоўскага раёна). Але можна прышчэпліваць яблыні, слівы, грушы цяпер, улетку, але толькі не пазней жніўня. А прышчэпы рабіць толькі «вочкам».

Выберыце на любімым гатунку добра развітую сёлетнюю (яшчэ без закладкі кветак) галінку, а на ёй – добра развітую пупышку. Выражце з галінкі кавалачак 3–4 см з пупышкаю. Пасля можна на дрэве, на маладой, але ўжо развітай кары зрабіць Т-падобны надрэз сантыметры тры, кавалачак галінкі абрэзаць з адваротнага боку пупышкі, акуратна нажом адагнуць Т-падобны надрэз і ўставіць туды прышчэп, зноў жа вельмі акуратна абмазаць верхні і ніжні сутыкі садовым варам, а пасля абвіць дрэва з чаранком стужкай (изолентой), што можа расцягвацца, пупышку пакінуўшы навідавоку. Некаторыя на чаранку пакідаюць дзве, а то і тры пупышкі. Праз тыдзень-другі пупышка не засохла, яшчэ большае – як казалі, «працэс пайшоў». Да пачатку замаразкаў можа з'явіцца з пупышкі ўжо новая галінка. На зіму варта яе абгарнуць анучкай, каб не падмерзла. Увесну шугане ў рост, на другі-трэці год пачне даваць свае плады.



## Малая краязнаўчая энцыклапедыя

*(Пачатак у № 1 за 2003 г.)*

***Добры дзень, літара Б!***

***Б – другая літара беларускага алфавіта. Паходзіць з кірыліцкай («букі»), што ўтварылася графічным відазмяненнем візантыйскай літары В. Лацінскае В і славянскае Б пішуцца па-рознаму, бо лацінскі алфавіт узнік на аснове грэчаскага (праз этрускае) у VII–VI стст. да н. э., калі... перадавала гук «б», а ў перыяд стварэння славянскага алфавіта ў IX ст. ... вымаўлялася грэкамі як «в» і замацавалася ў кірыліцы для перадачы гэтага гука. Не мела лікавага значэння. У сучаснай беларускай мове абазначае выбухныя звонкія губна-губныя фанемы, што рэалізуюцца па-рознаму ў залежнасці ад якасці суседніх гукаў ці пазіцыі ў слове (канцавой ці неканцавой). Ужываецца ў афіцыйных абрэвіятурах – Беларусь, БНР, БССР, БФК і г.д. Пры класіфікацыйным падзеле мае значэнне «другі» (пункт «б»), пры лічбавай нумарацыі – дадатковае значэнне для размежавання прадметаў пад адным нумарам (10 «Б» клас).***

**Б**АБАЎНЯНСКІ ПАРК – помнік садова-паркавага мастацтва. Створаны ў канцы XIX – пачатку XX ст. у вёсцы Бабоўня Капыльскага раёна. Яго плошча – каля 9 га. Парк амаль квадратнай формы з роўным рэльефам. З трох бакоў абмежаваны ровам і суцэльнымі пасадкамі, з захаду – сістэмай вадаёмаў. Планіроўка рэгулярная. У цэнтры стаяў сядзібны дом (не збярогся). З поўначы да яго прымыкаў сад, з поўдня – партэр (з французскага – адкрытая частка парку, афармленая газонамі, кветнікамі, вадаёмамі, фантанамі), абмежаваны з процілеглага боку сажалкай і пладовымі садамі па баках (збярогся заходні).

Сады былі квадратныя ў плане (плошча каля 2 га), па перыметры абсаджаныя ліпамі. Да алей прымыкалі маляўнічыя паляны з дэкаратыўнымі дрэвамі. У парку растуць лістоўніца еўрапейская, дуб звычайны пірамідальны, конскі каштан васьмітычынкавы, явар звычайны і з пурпурнымі лістамі, вярба ломкая шарападобная. Парк значна пашкоджаны.

**Б**АБА-ЯГА (Юга, Ягішна, Егібічна, Ягаба) – вобраз чарадзейных усходнеславянскіх казак. У многім падобны вобразам польскіх, чэшскіх, славацкіх казак, мае агульныя рысы з героямі казак іншых народаў. Вельмі яркі і каларытны вобраз Бабы-Ягі на касцяной назе: яна лётае на ступе, паганяючы памялом, жыве ў лясной хатцы на курынай назе, якая паварочваецца, калі вымавіць магічныя словы. Выключную выразнасць вобразу надаюць характарыстыкі, традыцыйныя для іншых персанажаў беларускіх казак: «Із ноздзер дым шыбаець, із рота полымя, а з вушэй іскры сыплюцца» (Е. Раманаў. «Беларускі зборнік», 1901, в. 6, с. 187). Вобраз Бабы-Ягі складваўся на працягу многіх стагоддзяў і ўвабраў у сябе ўяўленні аб пачынальніцы мацярынскага роду, аб царстве мёртвых, аб старажытным абрадзе ініцыяцый (з лацінскай, выкананне таінства). Паступова ён зліўся з вобразам злой варажбіткі, ведзьмы і стаў служыць яго заменай. У некаторых казках пра мачаху і падчарыцу, пра пошукі прапалага мужа ці жонкі, пра прыгажуню-жонку Баба-Яга выступае як дарадчыца героя, якому памагае, дорыць чарадзейныя рэчы. Аднак часцей яна адыгрывае адмоўную ролю пярэваратня, выкрадальніцы-людаедкі, злой чарадзейкі.

**Б**АБІНА КАША – абрадавая страва на радзінах, густа звараная каша з прасяных, грэцкіх або ячных круп, якую гатавала бабка. Бабіна каша павінна была забяспечыць дастатак і доўгі век немаўляці.

Раздача бабінай кашы была заключным, самым вясёлым момантам радзіннай урачыстасці. Пад прыгаворкі і «вымудраванне» бабкі («На-тка бабінай кашы, паглядзім на рубельчыкі вашы»), пасля «торгу» кум разбіваў гаршчок («Гадуй, божа, малое, ды каб на той год другое»), а бабка надзяляла кашай гасцей, якія клалі грошы «ўнучку на мылка». У наш час бабіну кашу замяняюць тортам, але дзе-нідзе захоўваецца звычай разбіваць гаршчок.

## Сусветны дзядзінец

**776** да н.э. Згодна з легендамі, адбылася першая алімпіяда ў Грэцыі.

**862** н.э. Першае пісьмовае ўпамінанне пра існуючыя ўжо Кіеў, Полацк, Ноўгарад – цэнтры адпаведных княстваў.

**987.** Парыж становіцца сталіцай Французскага каралеўства.

**1581.** У горадзе Астрогу (на Валыні) друкар Іван Фёдараў выдаў першы рускі каляндар. Да кожнага месяца там публікаваліся вершы беларускага паэта Андрэя Рымшы.

**1764.** У Пецярбургу згодна з указам імператрыцы Кацярыны II заснуоўваецца Выхаваўчае таварыства шляхетных дзяўчат і пры ім вучылішча для мяшчанскіх дзяўчын (Смольны інстытут) – першая ў Расіі жаночая выхаваўча-адукацыйная ўстанова.

**1821.** На востраве Святой Алены памірае Напалеон.

## Ад Антосіхі

# Піце, ешце, смакуйце ўсё сваё!

### Клубнічны напой

Змяшайце ў некалькіх шклянках малака некалькі лыжак цукру (на соладзь, соль альбо салёнае ды горкае густ у кожнага свой) і некалькі шклянак клубніц (трускавак), дадайце крыху солі і ўсё ўзбіце калі не адпаведным прыборам, то лыжкай ці двума складзенымі адваротна відэльцамі да аднароднага змесціва. На стол падавайце напой ахаладжаным. Замест клубніц можна ўжыць суніцы, чарніцы, маліны, чырвоныя і чорныя парэчкі.

### Малінавыя лёдзікі

Шклянку соку маліны альбо сіропу перамяшаць са шклянкай ці больш цукру, варыць, пакуль змесціва не парудзее. Затым усё разліць у формачкі, астудзіць.

### З чорных парэчак:

**Кашка (пюрэ).** 250 г ягад, паўшклянкі цукру і шклянка вады. Падрыхтаваныя ягады добра расцерці, заліць варам (кіпятком), ахаладжаным да 60 градусаў, настояць з паўгадзіны, адціснуць сок-сіроп праз марлю (зразумела, сок спрыяльна зручней атрымліваць сокавыціскалкай). Астаткі заліць трыма шклянкамі гарачай вады, кіпяціць хвілін 10 і працадзіць. Адвар змяшаць з паўшклянкай цукру і выцiснутым сокам, астудзіць.

**Джэм.** 1 кг ягад, 500 г цукру, паўшклянкі вады. Варыць з перапынкамі 2–3 разы, здымаючы пенку.

**Пасціла.** 1 кг ягад, 600 г цукру, больш за палову шклянкі вады. Ягады ў эмаліраванай каструлі паварыць, каб яны расплыліся. Працадзіць праз сітца. Кашку-пюрэ перамяшаць з цукрам і яшчэ варыць, пакуль змесціва не набудзе стан густой смятаны. Пасля ўсё разлажыць у латкі і сушыць у духоўцы, нагрэтай да 70 градусаў, гадзін з дзесяць. Пасля ў закрытым выглядзе захоўваць у сухім халодным месцы.

**Варэнне.** 1 кг ягад, 1,5 кг цукру, 4 шклянкі вады. Ягады ўсыпаць у вар на хвілін 5, сцадзіць для нарыхтоўкі сіропу. Пасля ў яго, што закіпіць, апусціць ягады і варыць разы тры па хвілін пяць пасля шасцігадзіннага перапынку.

### Увага: фірмовае ад Антосіхі! Сок з чырвоных парэчак і перацёртыя чорныя парэчкі

Яны пераціраюцца на спецыяльнай машынцы з неметалічным валікам. Перацёртае з чырвоных парэчак адціснуць праз марлю. Пасля злучыць у эмаліраваным посудзе шклянку соку і шклянку цукру (ніякай вады!), паставіць на маленькі агонь, але не даводзіць да кіпення, толькі падагрэць і ўвесь час памешваць, каб растаў цукар. Чорныя парэчкі не адціскаць, для іх таксама такая ж норма цукру і працэдура прыгатавання. Цёплую масу, дзе добра растаў цукар, разліць у добра вымытыя і сухія слоікі. Там маса паступова застыне ў жэле (салодкую студзяністую страву без дабаўкі жэлаціну), зберагаючы сваю натуральнасць. Толькі гэтыя слоікі трэба захоўваць у сухім халодным месцы, інакш жэле, калі ў ім мала цукру, можа забрадзіць.

### Агрэст у сваім соку

Памыты агрэст апусціць у эмаліраваны посуд, насыпаць цукру (200–400 г на 1 кг ягад, у залежнасці для чаго будзе ласунак: для чаю альбо прыправа да мяса і рыбы), паставіць на агонь і награваць да 85 градусаў, увесь час памешваючы. Праз хвілін 5 каструлю зняць з агню, разліць гарачае змесціва ў прагрэтыя слоікі, накрыць з дапамогай машынкі жалезнай накрыўкаю, паставіць уверх дном, накрыць коўдрачкай і пакінуць да астывання.

Газета зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Рэгістрацыйнае пасведчанне № 2019 ад 19. 03. 2003 г.
Заснавальнікі: грамадскае аб'яднанне «Беларускі фонд культуры», вытворчае прыватнае унітарнае прадпрыемства «Светач», Гілеп Уладзімір Аляксандравіч.

Краязнаўчая газета
Індэкс індывідуальнай падпіскі – 63320
ведамасный – 633202

Галоўны рэдактар – Уладзімір ГІЛЕП
Нам. галоўнага рэдактара Генрых ДАЛІДОВІЧ.
Адказны сакратар Уладзімір Пучынскі.
Рэдкалегія: Анатоль Бутэвіч, Андрэй Вірчак, Анатоль Грыцкевіч, Алесь Карлюкевіч, Лідзія Кулажанка, Адам Мальдзіс, Вячаслаў Рагойша, Віталь Скалабан, Віктар Хурсік.

Наш адрас: 220029, г. Мінск, вул. Камунальная набярэжная, 6. Тэл. 283 28 26. E-mail: kraga@tut.by

Аб'ём рукапісаў не павінен перавышаць 10 с.
Аўтарскія рукапісы не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца.
Аўтары дапісаў у рэдакцыю паведамляюць свае прозвішча, поўнасцю імя і імя па бацьку, пашпартныя звесткі, асноўнае месца працы, зваротны адрас.
Меркаванні аўтараў могуць не адпавядаць пункту гледжання рэдакцыі.
Аўтары нясуць адказнасць за дакладнасць матэрыялаў.

Падпісана да друку: 12. 08. 2004.
Газета надрукавана ў друкарні УП «Светач»: 220030, г. Мінск, вул. Першамайская, 7. (Ліцэнзія ЛП № 02330 ад 27. 02. 2004 г.)
Заказ 1224.
Тыраж 1100.